*9 жніўня – дзень выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**№ 38 (4496)**

12 мая 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

Валерий ЦЕПКАЛО

## Пришло время вернуть власть народу

В мире произошла революция. Но в отличие от революций прошлого обращена она была не к классам, а к человеку. На смену эпохи масс пришло время личной свободы человека. На место давления, принуждения, запугиваний пришли новые формы организации общества. Они стали основываться на индивидуальной ответственности, высокой мотивации и личной заинтересованности.



Вместо примитивной «вертикали управления» пришли новые методы организации государства и общества, основанные на партнерстве, сотрудничестве и горизонтальном взаимодействии.

Эта революция прошла мимо Беларуси. Более того. Свыше четверти века страна двигалась в противоположном направлении. В стране утверждались семейные, неофеодальные отношения с возможностью проявления различных форм капризности, бесцеремонности и грубости по отношению к тем, кто стоит ниже на социальной лестнице.

В стране сформировалась модель, при которой возвышение одних происходило не путем индивидуального развития и личностного роста, а за счет «опущения» и унижения других, лишения их гордости и человеческого достоинства.

Происходила последовательная изоляция энергичных личностей либо их выдавливание из страны. Предприниматель был криминализирован, а гражданин «стерилизован». В результате сформировалось общество, лишенное искр творчества, смелости, дерзновения.

Результаты этого мы хорошо видим. Экономика потеряла конкурентоспособность, а общество – способность к развитию.

В то время как бурно развивались экономики стран Европы, Америки и Азии, ВВП Беларуси за 10 лет не только не вырос, но и уменьшился. Упали доходы населения. Теперь белорусы зарабатывают меньше, чем самая бедная китайская провинция. Наша страна ходит по миру с протянутой рукой и просит выделить ей кредиты на покрытие процентов по ранее полученным кредитам.

Беларусь как будто превратилась в другую планету, с другим притяжением. Тугая атмосфера застоя, отсутствие свежего воздуха перемен, нехватка света, красоты и улыбок. Страна, живущая прошлым, а не будущим. Этот затхлый воздух и атмосфера бесперспективности деморализуют людей, убивают их оптимизм и творческий запал.

Наша молодежь не хочет рожать и не хочет здесь жить. Население Беларуси с каждым годом уменьшается почти на 40 тысяч человек. За 25 лет страна «потеряла» 750 тысяч человек – ее население уменьшилось на численность Могилева и Витебска вместе взятых.

Катастрофически падает рождаемость. В прошлом году у нас новый антирекорд – в Беларуси родилось столько ж детей, сколько в 1945 году – когда после Великой войны вся страна лежала в руинах.

Молодежь уезжает за границу семьями. Потому как считают, что там больше перспектив, знаний, свободы, денег и… надежды. Надежды на то, что завтрашний день может быть лучше, чем сегодняшний… Белорусское Возрождение, возможность которого еще ощущалась в середине 90-х годов прошлого века, не состоялось. Оно сменилось безвременьем, периодом застоя, стагнации, общественной апатии и безразличия.

Мы не решаем проблем завтрашнего дня – мы их не понимаем. Вместо этого мы заняты бессмысленными «битвами за урожай», «модернизацией» деревообработки и цементной отрасли, спасением камвольного комбината, целлюлозной фабрики, посещением свинарников и коровников, а также борьбой с «тунеядцами» и «бездельниками». На все это тратятся колоссальные силы, деньги, время и энергия.

На фоне стремительных перемен мы застряли в устаревших представлениях о мире, где ключевое понятие – враг. Его наличием оправдываются наши внутренние проблемы. Заговоры Госдепа, происки Евросоюза, интриги Россельхознадзора – именно они виновны в том, что наша страна медленно, но верно сползает на мировую экономическую периферию. Из страны с самым высоким потенциалом в Восточной Европе мы превратились во второе по бедности государство на европейском континенте.

*(Окончание на 3-й стр.)*

SOS!

## Міністэрства аховы здароўя:

*на раніцу 11 мая ў Беларусі было зафіксавана 23.906 выпадкаў заражэння каранавірусам*

За апошнія суткі колькасць захварэлых павялічылася на 933 чалавекі. За ўвесь час эпідэміі паправілася 6531 асоба. Памерлі 135 чалавек.

У Беларусі дзейнічаюць 38 лабараторый па правядзенні тэстаў. Усяго іх зроблена больш за 274 тысячы.

СТАЛА ВЯДОМА

## Хутка кожны зможа прайсці тэст на антыцелы да COVID-19

У Беларусь паступілі 100 тысяч экспрэс-тэстаў на антыцелы да COVID-19, паведаміў учора журналістам галоўны ўрач Рэспубліканскага цэнтра арганізацыі медыцынскага рэагавання **Эдуард Вальчук**.

Ён падкрэсліў, што экспрэс-тэсты размеркаваны ў адпаведнасці з узроўнем захваральнасці ў абласцях і Мінску. «*Яны размяркоўваліся ў адпаведнасці з патрэбнасцю цяпер, каб крыху разгрузіць нашы асноўныя лабараторыі, якія працуюць над дыягностыкай COVID-19*», – дадаў Эдуард Вальчук.

Плануецца, што выкарыстоўваць экспрэс-тэсты пакуль будуць толькі ўстановы аховы здароўя. На наступным тыдні чакаюцца дадатковыя пастаўкі, пасля чаго ў краіне ўсім жадаючым будзе прадастаўлена магчымасць прайсці тэсціраванне. Экспрэс-тэсты паказваюць наяўнасць антыцел. У перыяд разгару клінічных сімптомаў яны выяўляюць наяўнасць імунаглабулінаў М, якія сведчаць аб актыўным інфекцыйным працэсе. Калі чалавек перахварэў некаторы час таму, у яго з'яўляюцца імунаглабуліны G. Пры наяўнасці падазрэнняў, што захворванне было перанесена ў лёгкай форме, можна будзе прайсці тэсціраванне, каб пацвердзіць іх або абвергнуць.

*(Паводле БЕЛТА.)*

ПРАПАНОВА

## «Праваабаронцы за свабодныя выбары» запрашаюць…

Незалежная грамадская кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары» запрашаюць на канферэнцыю, дзе распавядуць пра спецыфіку назірання за прэзідэнцкімі выбарамі ў гэтым годзе.

Прэс-канферэнцыя, прысвечаная пачатку назірання за прэзідэнцкімі выбарамі ў Беларусі, адбудзецца **ў сераду 13 мая ў 10 гадзін**.

Сёлетняя электаральная кампанія будзе адбывацца ў асаблівых умовах пандэміі COVID-19. Гэта накладае адбітак і на спосаб правядзення канферэнцыі – яна адбудзецца ў відэафармаце на адмысловай пляцоўцы Zoom.

Каб узяць удзел, неабходна папярэдне зарэгістравацца на электроннай пошце **viasna@spring96.org**, даслаўшы свае кантакты, і атрымаць спасылку для ўваходу ў праграму. Zoom таксама можна спампаваць на свой тэлефон.

Таксама канферэнцыя будзе трансляваецца на старонцы кампаніі ў «Фэйсбуку» і на сайце **spring96.org**.

Традыцыйна пра пачатак назірання абвяшчаюць каардынатары незалежнай грамадскай кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» **Алег Гулак** ад РПГА «Беларускі Хельсінкскі Камітэт» і праваабаронца **Уладзімір Лабковіч**. Яны дадуць сваю ацэнку грамадска-палітычнаму фону на момант абвяшчэння кампаніі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, адкажуць на пытанні прадстаўнікоў СМІ і зацікаўленых асоб.

Нагадаем, што ўдзельнікі незалежнай кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» накіравалі ў Цэнтрвыбаркам, Палату прадстаўнікоў і Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусі шэраг важных прапаноў па правядзенні прэзідэнцкіх выбараў ва ўмовах эпідэміі COVID-19.

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## «Народная Воля»: для тых, хто за ПРАЎДУ!

Даўнішнім прыхільнікам «Народнай Волі» не трэба тлумачыць, якую пазіцыю вось ужо амаль 25 гадоў займае наша газета. Яе галоўнымі прынцыпамі былі і ёсць:

– праўдзівасць і аб'ектыўнасць у адлюстраванні самых розных падзей;

– плюралізм меркаванняў людзей, нягледзечы на іх прафесійны і сацыяльны статус;

– умацаванне дэмакратыі ва ўсіх сферах нашага жыцця;

– адраджэнне нацыянальна-гістарычных, культурных, духоўных каштоўнасцяў;

– спрыянне эканамічным і палітычным рэформам з мэтай павышэння дабрабыту беларускага народа.

Тым, хто пакуль мала знаёмы з «Народнай Воляй», раім: а Вы, шаноўныя, аформіце падпіску – і газета стане вашым лепшым сябрам. Сёлета, калі вось-вось у краіне разгорнецца ва ўсю моц палітычная кампанія па выбарах ПРЭЗІДЭНТА, «Народная Воля» сарыентуе Вас у правільным накірунку, прадаставіць незаангажаваную інфармацыю па кожным кандыдаце на найвышэйшую пасаду.

Калі раней «Народная Воля» трапляла ў Вашы рукі толькі зрэдку, а цяпер Вы вырашылі аформіць падпіску, то нагадаем: каб атрымліваць газету ўжо з 1 чэрвеня, Вам неабходна зрабіць гэта да 26 мая. Заўважым: ужо актыўна вядзецца падпіска і на ўсю другую палову 2020 года. Ёсць праблемы з фінансамі – можна аформіць падпіску на любы тэрмін: месяц, два, тры…

Дарэчы, для гэтага Вам не абавязкова наведваць паштовыя аддзяленні ці спецыялізаваныя пункты «Белсаюздруку». Можна аформіць падпіску на «Народную Волю» і не выходзячы з дома. Для гэтага трэба на сайце belpressa.by запоўніць падпісны бланк і зрабіць аплату праз сістэму Webpay банкаўскай карткай ці праз сістэму «Расчет» (АРІП). У апошнім выпадку неабходна выбраць пункт «система «расчет» (ЕРИП)» – «СМИ» – «Н» – «Народная Воля» – «Подписка». Для аплаты трэба ўвесці нумар рахунка, атрыманага на сайце belpressa.by. Зрабіце плацеж.

**Не заставайцеся без «Народнай Волі» ў лёсавызначальны час!**

**Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля – з Вамі!**

ТАК БЫЛО...

## 9 МАЯ 2020 ГОДА

*З-за каранавіруснай пандэміі ваенны парад у сувязі з 75-годдзем Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне на постсавецкай прасторы быў праведзены толькі ў Беларусі і Туркменістане. Вось што адбывалася ў гэты дзень у Мінску.*













ШЧЫРАЯ РАЗМОВА

# Юрый АЛЕЙНІК: «У месяц мне трэба плаціць 3700 долараў…»

*Сталічны бізнесмен распавёў «Народнай Волі» пра тую безвыходную сітуацыю, у якой сёння апынуліся многія прадстаўнікі малога і сярэдняга бізнесу.*



**Юрый АЛЕЙНІК** – дырэктар гульнявой прасторы Quvalda, ужо чатыры гады яго кампанія арандуе плошчы на тэрыторыі мінскага завода «Гарызонт». Слаўныя часы для гэтага некалі славутага прадпрыемства даўно прайшлі, але, як кажуць, святое месца пустым не бывае: знайшліся прадпрымальнікі, якія добраўпарадкавалі свабодныя заводскія плошчы і заняліся бізнесам.

Здаецца, усё было добра да таго часу, пакуль не прыйшоў каранавірус…

– У мяне быў даволі паспяховы бізнес, але зараз з-за каранавіруса я і іншыя прадпрымальнікі, якія таксама арандуюць плошчы на гэтай тэрыторыі, аказаліся закладнікамі сітуацыі, – кажа **Юрый АЛЕЙНІК**. – Зразумела, што сёння не той час, калі дзеці і дарослыя ідуць у забаўляльныя цэнтры. Людзі стараюцца, наадварот, трымаць адзін ад аднаго дыстанцыю, а таму ў такія цэнтры практычна ніхто не ідзе.

У выніку ў нас адбылося катастрафічнае падзенне наведвальнасці і прыбытку – амаль на 90 працэнтаў. І сітуацыя з кожным днём ускладняецца. Калі два месяцы таму ў мяне было за тыдзень каля 15 мерапрыемстваў альбо квэстаў, дык сёння ўжо і не памятаю, калі прайшло апошняе.

Але трэба разумець, што зараз уяўляе сабой корпус завода «Гарызонт», які мы арандуем. Тут і забаўляльныя цэнтры, і фотастудыі, і фірма па вытворчасці адзення, і творчыя майстэрні… І ва ўсіх сітуацыя падобная. У кагосьці трохі лепш, у кагосьці горш, нехта ўжо наогул закрываецца.

**– Няма магчымасці аплачваць арэнду?**

– На працягу двух месяцаў мы спрабуем дамагчыся хоць якіх-небудзь саступак з боку нашага арэндадаўцы – «Гарызонт-Белінвест-Дэвелопер». Яны ж не на іншай планеце жывуць, бачаць, у якой сітуацыі ўсе апынуліся.

І мы не патрабуем ад кагосьці грошай, нам проста патрэбна падтрымка, як гэта робіцца падчас эпідэміі ў многіх цывілізаваных краінах.

Просім зніжэння арэнднай стаўкі, адтэрміноўкі альбо растэрміноўкі плацяжоў, арэндных канікул. Гатовы разглядзець любыя варыянты. Спадзяёмся, што сітуацыя нармалізуецца, людзі пачнуць карыстацца нашымі паслугамі, і тады мы зможам выконваць усе ўзятыя на сябе абавязальніцтвы.

**– Як арэндадаўца рэагуе на вашы просьбы?**

– Ніяк. Адзінае, што было зроблена яшчэ два месяцы таму, дык зафіксавалі на тры месяцы курс еўра па стане на 1 сакавіка, бо аплата арэнды, калі хто не ведае, у Беларусі налічваецца чамусьці ў еўрапейскай валюце.

І ўсе разумеюць, што гэтая саступка – проста мізэр, а на зніжэнне арэнды ці адтэрміноўку плацяжоў арэндадаўца прынцыпова не ідзе.

У выніку ўсё катастрафічна кепска! З аднаго боку, заключана дамова, і мы па ёй абавязаны плаціць. З іншага – плаціць няма чым, бо няма кліентаў. Не плаціш – пагражаюць адключэннем электрычнасці, і ўжо ёсць такія выпадкі.

Увогуле, сітуацыя такая, што дэ-юрэ ў краіне не ўведзены каранцін, але дэ-факта ўсё гэта прысутнічае. Напрыклад, на сайце Міністэрства аховы здароўя вы можаце прачытаць рэкамендацыі па сацыяльным дыстанцыраванні, скарачэнні кантактаў у грамадстве, але юрыдычна гэта ніяк не замацавана.

**– Што зараз?**

– Зараз у мяне проста няма грошай заплаціць за арэнду, вісіць запазычанасць. Апошнія грошы, якія былі на рахунку, выплаціў супрацоўнікам, бо нікога не звальняў.

Арэндадаўцу накіраваў паведамленне, у якім запытаўся: ці будуць прадпрыняты нейкія меры з нагоды запазычанасці? Мне адказалі коратка: «Будзем дзейнічаць адпаведна з дамовай і заканадаўствам».

Ёсць яшчэ адзін важны нюанс. Многія прадпрымальнікі, якія тут працуюць, у тым ліку і я, прывязаны да гэтага месца. Мы ж за свае грошы зрабілі рамонт заводскіх цэхаў, уклалі вялікія сродкі. Пяць гадоў таму ў гэтым памяшканні былі брудныя калідоры і прыбіральні, дзіркі ў падлозе. Укладвалі ў рамонт душу, стараліся зрабіць так, каб гэта было наша памяшканне не на год-два. Хто ж ведаў, што атрымаецца такая сітуацыя, якую маем зараз?

Таму, калі мне кажуць «Не хочаш плаціць – з'язджай», я ж таксама разумею, з чым давядзецца развітацца. Гэта ж не тое што твая фірма арандуе пакой, дзе толькі крэсла, стол і на ім камп'ютар. Узяў камп'ютар, закрыў на час бізнес – і пайшоў дахаты. Тут жа у рамонт памяшканняў укладзены дзясяткі тысяч долараў. І што іх зараз – на вецер?

**– І насамрэч атрымліваецца замкнёнае кола. Дарэчы, якія сумы вам трэба штомесячна плаціць?**

– Я арандую каля 350 квадратных метраў, і плаціць трэба як за арэнду, так і за камунальныя паслугі. І калі даведаўся, што ацяпляльны сезон у Мінску працягнуўся, то гэта быў яшчэ адзін удар нажом у спіну. Мне за сакавік толькі за ацяпленне трэба было заплаціць каля 2 тысяч рублёў.

А сумарна па ўсіх плацяжах, якія мы плацім за арэнду, эксплуатацыйныя і камунальныя паслугі, уборку памяшканняў і гэтак далей за месяц набегла каля 3700 долараў. А майму калегу за 600 квадратных метраў наогул налічылі каля 6 тысяч долараў за месяц. Мяркуйце самі, як у такіх умовах выжываць…

**Алесь СІВЫ.**

СІТУАЦЫЯ

# Блогеры ў аблозе

Выглядае, што на гэты раз хваля арыштаў блогераў звязана з шостымі ў гісторыі Беларусі выбарамі прэзідэнта, прызначанымі Палатай прадстаўнікоў на 9 жніўня. Бачна нават няўзброеным вокам, што «паляванне» было ў асноўным на тых, хто мала-мальскі «засвяціўся» вакол блогера **Сяргея Ціханоўскага**, які таксама заявіў пра свае прэзідэнцкія амбіцыі.

### «Вісячы» арышт – шыкоўны кручок

Пераследавалі Ціханоўскага цэлыя два дні, пакуль урэшце 6 мая з удзелам АМАПа не затрымалі ўзорна-паказальна ў Магілёве. А затым даставілі яго пад канвоем у ізалятар часовага ўтрымання УУС Гомельскага аблвыканкама.

Толькі праз дзень прэс-сакратарка Міністэрства ўнутраных спраў Вольга Чамаданава патлумачыла, што Ціханоўскі затрыманы на падставе пастановы суда Савецкага раёна Гомеля аб адміністрацыйным арышце. Арышт гэты «вісеў» на блогеры з 10 студзеня за ўдзел у снежаньскай акцыі пратэсту ў Мінску супраць паглыблення інтэграцыі з Расіяй і быў, як і ў многіх іншых грамадзян, другой па ліку «падзякай» за падтрымку незалежнасці краіны.

Першыя 15 сутак Ціханоўскі спраўна адседзеў у Гомельскім ізалятары. І, пакуль знаходзіўся за кратамі, у міліцыі саспеў другі адміністрацыйны пратакол на яго – на чарговыя 15 сутак. Але адбыць адным заходам два арышты Ціханоўскаму прадбачліва не далі – выпусцілі на волю.

З дапамогай праваабаронцаў Ціханоўскі абскардзіў новы арышт у Гомельскім абласным судзе. Але скарга яго, сцвярджае гомельскі праваабаронца **Леанід Судаленка**, была адхілена абласным судом 7 лютага, у гэты ж дзень пастанова на арышт набыла юрыдычную моц.

Існуючае заканадаўства патрабуе, каб адміністрацыйнае пакаранне было ажыццёўлена цягам трох месяцаў. Інакш яно аўтаматычна скасоўваецца. Акурат 6 мая – апошні дзень, калі Ціханоўскага можна было законна адправіць на нары. Так што «студзеньскія 15 сутак» сталі яшчэ і своеасаблівым кручком, за які можна было пацягнуць, каб ізаляваць палітызаванага блогера.

### Высунуўся – атрымай

Прэтэндэнтам на ўдзел у выбарах да 15 мая неабходна падаць заяўку на рэгістрацыю сваёй ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў.

Цяпер у спадара Ціханоўскага такой магчымасці не будзе.

Заўважу: кампанія напорыстага блогера актыўна шыбавала не толькі ў інтэрнэце, але і па вуліцах беларускіх малых і вялікіх гарадоў. Уладныя структуры хутка сцямілі, што публічнай «дулі ад старшыні Добрушскага райвыканкама Вольгі Мохаравай» сябраматывістам Ціханоўскага замала. У Магілёве затрымалі і асудзілі шэраг прыхільнікаў блога «Страны для жизни», якія выйшлі бараніць Сяргея Ціханоўскага.

У Гомелі 7 мая судзілі «за кармленне галубоў з Ціханоўскім» у цэнтры горада мясцовага актывіста **Васіля Рэпніна** (штраф 135 рублёў) і жыхара прыгараднай вёскі Рудня-Марымонава **Аляксея Саламашанку** (арышт 15 сутак). Па прыкладзе жыхароў Брэста і ў горадзе над Сожам сталі «карміць галубоў» і абмяркоўваць сітуацыю ў краіне. Галубы – птушкі міру сталі ў нейкім родзе яшчэ і сімвалам яднання. Але і гэта яшчэ не ўсё.

Нягледзячы на суды, 7 мая ў Гомелі іншыя прыхільнікі Ціханоўскага зноў выйшлі на цэнтральную плошчу горада, каб ужо наўпрост выказаць падтрымку яму і пакараным актывістам. Міліцыя з удзелам байцоў АМАПа затрымала два дзясяткі пратэстоўцаў. Але арыштавалі «па гарачых слядах» толькі бліжэйшага паплечніка Ціханоўскага **Юрыя Уласава**. 8 мая суд Цэнтральнага раёна Гомеля пакараў яго за арганізацыю несанкцыянаванага масавага мерапрыемства максімальным адміністрацыйным арыштам на 15 сутак. Так што цяпер Уласаў і Ціханоўскі, магчыма, у адным ізалятары. Апошні, дарэчы, праз свайго адваката Пятра Барысава пацвердзіў 9 мая, што, нягледзячы на ўсё, сапраўды будзе ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах. Ён мае паплечнікаў, якія на падставе раней аформленых даверанасцяў своечасова пададуць неабходныя дакументы ў Цэнтрвыбаркам на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы.

Чаму ўлады занепакоіліся палітычнай актыўнасцю блогера Ціханоўскага?

*– Адказ ляжыць на паверхні. Ціханоўскі здолеў ачоліць пратэстны настрой, пратэстныя акцыі. Ён мабільны, запачаткаваў «дом на колах», ездзіць па краіне, выслухоўвае праблемы людзей, здымае відэаролікі пра іхняе жыццё. Адсюль і падтрымка,* – лічыць Леанід Судаленка, які сачыў за судовымі працэсамі супраць блогера.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**

ЧУЛІ?

## Каму 5 сутак, каму 7, а каму і штраф у памеры 10 базавых велічынь

Пяць гродзенскіх актывістаў і пяць лідскіх асуджаны за нібыта ўдзел у масавых мерапрыемствах.

Гродзенец **Васіль Калач** асуджаны на пяць сутак арышту, **Яўген Разнічэнка**, **Юрый Шока**, **Алена Сахарчук** – на шэсць, **Аляксандр Лаўрэнцьеў** – на сем сутак, і да гэтага яму дадалі яшчэ дзве суткі за ранейшае адміністрацыйнае правапарушэнне.

У Лідзе на сем сутак арышту асуджаны **Алег Краўцоў**, **Павел Палейчык**, **Андрэй Паляковіч**, **Максім Палонскі**. **Генадзь Паўлюкевіч** аштрафаваны на 10 базавых велічынь. Павінен адбыцца суд і над **Паўлам Анціпкіным**.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ТРАГЕДЫЯ

## З'елі атрутны корань

9 мая 39-гадовы мужчына ў вёсцы Кажамякіна Краснапольскага раёна выкапаў на сваім участку нейкі карань-плод.

Падумаўшы, што гэта рэдзька, сяльчанін і яго 10-гадовая пляменніца з'елі гэты корань, пасля чаго ім стала дрэнна. Дактары не здолелі іх выратаваць, мужчына і дзяўчынка памерлі.

Пазней высветлілася, што той корань – цыкута, адна з самых атрутных раслін.

**Віктар ШПАК.**

ЭНЕРГЕТИКА

## Беларусь начнет загрузку ядерного топлива на АЭС в июле

*На прошлой неделе на строительную площадку Белорусской атомной станции поступила партия ядерного топлива для первого энергоблока.*

Загрузка ядерного топлива на первом энергоблоке Белорусской АЭС планируется в июле, сказал замминистра энергетики **Михаил Михадюк**, передает Sputnik.

По его словам, в настоящее время завершен этап горячей обкатки оборудования реакторной установки. Это значит, что в реактор были загружены имитаторы топлива и проведен весь цикл испытаний технологического оборудования.

*«Мы ведем работы по подготовке к физическому пуску. Мы должны получить лицензии регулятора. Эксплуатирующая организация может ее получить только после проверки, что техника готова, персонал готов. И есть обосновывающий документ о ядерной безопасности»*, – рассказал замминистра.

*«Первая часть этапа физического пуска начинается с загрузки ядерного топлива. Предполагается, что этот этап может быть достигнут в июле»*, – уточнил Михаил Михадюк.

При этом он заверил, что нет никакой спешки с запуском атомной станции, потому что в приоритете стоят вопросы безопасности, которые регулируются требованиями нормативных документов.

*«Когда мы будем готовы полностью* (к пуску реактора. – **Sputnik**) *и получим соответствующую лицензию регулятора, тогда и начнем. В рамках графика, предоставленного генподрядчиком, такая готовность будет обеспечена в июле месяце»*, – отметил замминистра.

*«Безопасность для нас главный приоритет, и, пока мы не убедимся, что мы готовы технологически, готов персонал, мы на этот этап не пойдем»*, – подытожил он.

ВЕРДЫКТ

## Судовы канвеер

Суддзя Жлобінскага раённага суда Яўген Ерафееў 11 мая пакараў 15 суткамі арышту маладога жыхара пасёлка Стрэшын Віталя Грыцкова. У падазданым у суд адміністрацыйным пратаколе міліцыя абвінаваціла Віталя ў актыўным удзеле ў несанкцыянаванай акцыі, якая прайшла ў Гомелі 7 мая.

«Ніякай актыўнасці Віталь на той акцыі пратэсту не выявіў», – распавяла журналісту «Народнай Волі» жыхарка Жлобіна Ліяна Шуба. – Ён здымаў тое, што адбывалася, на тэлефон. Суддзя ж толькі запытаўся, ці пазнае Віталь сябе на відэаздымках. І, пачуўшы станоўчы адказ, абвясціў пастанову: 15 сутак арышту».

Паводле меркавання спадарыні Шубы, пакаранне Грыцкова максімальна магчымым арыштам звязана, хутчэй за ўсё, з адкрытым расповедам пра жыццё і праблемы свайго Стрэшына, запісаным блогерам Ціханоўскім прыкладна месяц таму. Апошнім часам Грыцкоў нідзе не працаваў, а займаўся толькі зборам дапамогі медыкам, якія змагаюцца з эпідэміяй каранавіруса.

Віталь Грыцкоў не адзіны, хто пакараны адміністрацыйным арыштам за ўдзел у несанкцыянаваных грамадскіх акцыях. На 15 сутак адпраўлены за краты і гомельскі актывіст Юрый Уласаў – такое рашэнне на падставе пратакола міліцыі прыняў 8 мая суд Цэнтральнага раёна Гомеля.

**Анатоль ЛІПСКІ.**

ВЫБОРЫ-2020

# Оппоненты Лукашенко заявляют о себе

*О своем участии в выборах уже заявили несколько кандидатов – и оппозиционных, и провластных. Желание стать соперниками Лукашенко изъявили кроме экс-главы Парка высоких технологий **Валерия Цепкало** блогер **Сергей Тихановский**, председатель Белорусской социал-демократической Грамады **Сергей Черечень** и лидер Либерально-демократической партии Беларуси **Олег Гайдукевич**.*

### Зарегистрировать инициативную группу могут успеть не все

Вместе с тем назначение даты выборов на 9 августа может внести коррективы в список потенциальных кандидатов. Согласно законодательству, выборы президента в Беларуси должны состояться не позднее 30 августа – и многие в стране рассчитывали именно на это число. Перенос даты выборов на 3 недели раньше означает, что у претендентов на президентский пост остается только одна неделя для формирования инициативных групп: в соответствии с Избирательным кодексом документы для регистрации инициативной группы в Центральную комиссию подаются не позднее чем за 85 дней до выборов, то есть до 15 мая.

К такому повороту событий оказались готовы не все.



Политический блогер Сергей Тихановский накануне был задержан и, вероятно, будет отбывать 15 суток ареста, назначенные ему за участие декабрьских протестах против интеграции с Россией.

### Ситуация с коронавирусом на руку власти



В комментарии для DW потенциальный кандидат в президенты Беларуси, председатель Белорусской социал-демократической Грамады Сергей Черечень рассказал, что смещение сроков на три недели – это существенно, и теперь его команде придется сильно ускориться в формировании инициативной группы, хотя уже на данный момент они смогли привлечь 400 сторонников.

Отказываться от выборов из-за пандемии Черечень не собирается, хотя понимает, что это будет сложно. *«Большинство членов моей инициативной группы – это люди, имеющие опыт в электоральной кампании, а значит, более старшего возраста, и они попадают в зону риска»*, – говорит он. Более того, Черечень осознает трудности в сборе подписей и агитации. *«Возникнут проблема с обходом квартир, люди будут бояться открывать двери. Основная надежда на пикеты, на которых можно подойти и оставить подпись»*, – говорит политик.

Черечень считает, что эта ситуация на руку власти, ведь будет меньше сопротивления со стороны оппозиционных сил. По его словам, было бы более адекватно и правильно отложить выборы хотя бы на полгода, однако его команда попытается максимально реализовать свои возможности с учетом сложившейся ситуации.

### Кандидаты будут агитировать онлайн

Пандемия также не повлияла на стремление стать президентом и лидера Либерально-демократической партии Беларуси, депутата Палаты представителей Олега Гайдукевича. По его словам, дата 9 августа не сюрприз, ведь о том, что выборы будут в августе, известно давно. *«Если кто-то не готов к 9 августа, он не будет готов и к 30 августа. Если ты серьезный политик, то нельзя готовиться за неделю*



*или месяц. Наша партия выдвинула кандидата еще два года назад»*, – говорит Гайдукевич.

Политик уверяет, что при сборе подписей его команда будет предпринимать все меры предосторожности, а во время агитации активно использовать онлайн-возможности. Вместе с тем посещение избирательного участка во время эпидемии Гайдукевич проблемой не считает: *«Люди же ходят в магазин, они могут и на участки прийти и спокойно проголосовать, надо только защитить всех»*.

В целом Олег Гайдукевич считает, что это будут сложнейшие выборы в истории страны: *«Но все кандидаты будут в таких условиях. Хотя, конечно, мне проще: я ведь депутат, есть узнаваемость, и уже сформирована инициативная группа»*.

(DW)

Народная Воля http://www.nv-online.info
12 МАЯ 2020 г.

ПО-Е-ХА-ЛИ!

# Каким будет политическое лето 2020 года?

**В конце минувшей недели Палата представителей Национального собрания назвала дату проведения очередных президентских выборов – 9 августа. И тут же о своем желании занять самый высокий пост в стране заявили несколько претендентов.**

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

Валерий ЦЕПКАЛО

## Пришло время вернуть власть народу

*(Продолжение. Начало на 1-й стр.)*



Сегодня Беларусь стоит перед историческим выбором! Либо продолжать тратить время и энергию на решение проблем вчерашнего дня. Либо и дальше расходовать деньги налогоплательщиков на дорогие спортивные мероприятия, бутафорские парады, дворцы и резиденции.

Или двигаться вперед, в будущее!

Перед разными странами и народами в различных исторических обстоятельствах вставал роковой вопрос: имеют ли они право на осмысленное суверенное существование в меняющемся мире? Или обречены на то, чтобы быть поглощены более успешными соседями?

Такой вопрос в скрытой форме сегодня встал и перед нашей страной. И самой большой угрозой для нас стала не военная мощь НАТО или России. Самая большая угроза для Беларуси – это неэффективная экономика, архаичная система управления, бедность. Давно пора отказаться от изжившей себя системы управления, при которой весь народ каждый день смотрит на настроение одного человека. Пришло время ВЕРНУТЬ ВЛАСТЬ НАРОДУ БЕЛАРУСИ!

Скажу честно. Я мечтаю о том, чтобы у нас была другая страна. Страна, где люди обладают собственностью – на землю своих предков, на заводы, предприятия, фабрики. Где люди будут чувствовать себя хозяевами. Где они смогут свободно трудиться. Не из-под палки, а потому, что чувствуют страну своей.

Я мечтаю о том, чтобы у нас была страна, где люди открыто, свободно и без боязни могли бы выражать свое мнение. Где будет независимый парламент, выражающий мнение избирателей. Где будут независимые суды – чтобы граждане и бизнес были уверены, что дела будут рассматриваться по справедливости и закону, а не по звонку «сверху».

Страна, где из стиля политического руководства будет устранена вульгарность, бесцеремонность и грубость. Страна, в которой будет уважение к каждому гражданину Республики Беларусь, кем бы он ни был, какое бы положение ни занимал.

Страна, где не будут уничтожаться парки, скверы и детские площадки ради выгоды непонятно откуда взявшегося и чьи интересы представляющего иностранного застройщика. А напротив! Где будет создаваться лучшая по мировым стандартам инфраструктура для жизни, учебы, работы и отдыха наших людей.

Беларусь – замечательная страна! Надо лишь прожить последние месяцы провинциально-скучной эпохи, и после этого всё, что мы умеем, мы сможем показать миру. Беларусь еще способна удивить мир технологиями и новыми интеллектуальными прорывами!

Нас может ожидать прекрасное будущее!

Я принял решение баллотироваться на пост Президента Республики Беларусь! У меня достаточно для этого и управленческого, и жизненного опыта! Имея серьезные контакты в политических и деловых кругах в разных странах мира, я смогу их использовать на благо народа Беларуси! Создав Парк высоких технологий, я показал и Беларуси, и всему миру, что наш народ может быть столь же умным, творческим и предприимчивым, как американцы, англичане, японцы, корейцы и другие успешные народы Земли.

Если объединить усилия, то можно сделать таким и все народное хозяйство нашей страны. Важно, чтобы мы – граждане Республики Беларусь – обрели личностное достоинство и самоуважение. Чтобы мы перестали быть предметом жалости и сочувствия со стороны стран, которые развиваются, идут вперед. Чтобы мы обрели новую страну, свободную, динамичную, не взирающую с завистью на чужие успехи, а показывающую пример другим.

Мир меняется! И мы должны меняться! Постоянно, непрерывно!

Мы должны быть открыты миру, учиться у него, впускать в себя все новое, творческое, прогрессивное. Только так мы сможем существовать в мире, где синонимом успеха является способность к постоянным изменениям – и себя, и власти, и общества, в котором мы живем.

История – открытая дорога. Она не фатальна. Мысль, творчество, интеллект, энергия наших людей способны преобразить нашу страну, явиться могучим средством возрождения нации, ее достоинства, чести и гордости.

И тогда мы пойдем вперед! К богатству и процветанию!

НЕ В СТОРОНУ ЗАКАТА, А В СТОРОНУ РАССВЕТА!

ДОСЬЕ

## Его биография

**Валерий Вильямович Цепкало** родился 22 февраля 1965 года в городе Гродно в семье инженеров химической отрасли. Окончил местную среднюю школу №14 с углубленным изучением английского языка. В 1982–1984 годах учился в Белорусском национальном техническом университете. В 1984-м был призван в армию, проходил службу в ракетных войсках стратегического назначения. После этого в 1986 году поступил в Московский государственный институт международных отношений МИД СССР, который окончил с отличием. После учебы остался в аспирантуре, которую окончил на «отлично», преподавал, стал кандидатом юридических наук.

Карьерный путь дипломата начал в 1991 году сотрудником Посольства СССР в Финляндии. После распада Советского Союза принял решение вернуться в Минск и в 1992 году занял дипломатическую должность в Министерстве иностранных дел Республики Беларусь. В 1993–1994 годах был советником председателя Верховного Совета Республики Беларусь по внешнеполитическим вопросам. Позднее стал советником исполнительного секретаря СНГ.

В 1994 году был назначен первым заместителем министра иностранных дел Республики Беларусь. С 1997-го по 2002 год был Чрезвычайным и Полномочным Послом Республики Беларусь в Соединенных Штатах Америки и в Мексике (по совместительству). После окончания дипломатической службы стал помощником Президента Республики Беларусь по науке и технологиям, в 2004 году выступил инициатором создания Парка высоких технологий.

Еще будучи послом в США и выступая с лекциями в Кремниевой долине, Валерий Цепкало решил создать подобное и в Беларуси. Одной из проблем постсоветских стран в то время (конец 1990-х – начало 2000-х) была «утечка мозгов», когда специалисты, не видя возможности развиваться на родине, уезжали в более обеспеченные страны Запада. Создание ИТ-кластера виделось как способ удержать этих людей дома, что могло бы дать толчок развитию в Беларуси отрасли разработки компьютерных программ.

Согласно исследованиям и мнению экспертов, Парку высоких технологий удалось вывести белорусскую ИТ-отрасль на мировой уровень. Такие компании, как EPAM, IBA, Exadel, ITransition и другие, вышли на уровень ведущих поставщиков ИТ-услуг в регионе и в мире, а созданные белорусами Viber, World of Tanks, MSQRD улучшили имидж страны на мировом рынке. ПВТ стал одним из крупнейших ИТ-кластеров в Центральной и Восточной Европе.

ПОЗИЦИЯ

## Белорусские левые и Партия БНФ не пойдут на президентские выборы

Белорусская партия левых «Справедливый мир» оценила решение провести выборы 9 августа как «безответственное и преступное». Об этом говорится в решении Центрального комитета партии, которое на своей странице в **Facebook** опубликовал лидер «Справедливого мира» Сергей Калякин.

Белорусские левые считают, что проведение в ближайшие три месяца избирательной кампании в Беларуси в условиях стремительного распространения коронавирусной инфекции ставит под угрозу здоровье и жизнь огромного количества людей.

*«Президентские выборы, если это не профанация, предусматривают в первую очередь широкомасштабные массовые социальные контакты между людьми. Так, в президентской избирательной кампании 2015 года, по официальным данным, свыше 20 тысяч членов инициативных групп собрали за выдвижение своих потенциальных кандидатов в президенты 2,3 млн подписей избирателей. Для этого они осуществили более 5 миллионов контактов с людьми. К этому необходимо добавить миллионы межличностных контактов во время агитационной кампании и в период голосования»*, – говорится в заявлении.

В связи с этим Белорусская партия левых «Справедливый мир» заявляет о невозможности своего участия в объявленной президентской кампании. Партия призывает *«власти Беларуси одуматься, отменить принятое решение о проведении 9 августа 2020 года выборов президента Беларуси»* и сделать паузу *«до окончания эпидемии COVID-19»*.

На прошлых выборах в 2015 году Сергей Калякин досрочно завершил участие в президентской кампании, поскольку не смог набрать необходимый минимум в 100 тысяч подписей избирателей.

Партия БНФ также не будет участвовать в президентских выборах – соответствующее заявление принято Соймом партии 10 мая.

В нем отмечается, что, назначив выборы на 9 августа, *«власти проигнорировали рекомендации по изменению избирательного законодательства, которые были предложены международными наблюдателями БДИПЧ ОБСЕ и отечественными кампаниями наблюдения»*. К этому *«добавился еще один фактор опасности для белорусского народа, а именно – проведение кампании во время пандемии COVID-19»*. *«Вовлекать людей в избирательное мошенничество во время пандемии – двойное преступление»*, – заявляет Сойм.

Партия *«с возмущением констатирует, что нынешнее руководство Беларуси не совершило предложенных Партией БНФ и гражданским обществом мер по предотвращению распространения коронавируса и надлежащего информированию граждан об истинном положении вещей, не осуществило необходимой поддержки белорусского бизнеса и домашних хозяйств, а со стороны высшего руководства страны были сделаны заявления об отрицании опасности пандемии и призывы к вредному для здоровья населения поведению вопреки рекомендациям медиков»*.

*«Ярчайшим примером пороков власти стало проведение массовых мероприятий 9 Мая, в том числе военного парада и концерта*, – отмечается в заявлении. – *Для удовлетворения собственных амбиций Александр Лукашенко своим волюнтаристским решением поставил под серьезную угрозу здоровье и жизни тысяч людей, в том числе ветеранов Второй мировой войны и пенсионеров, принадлежащих к особой группе риска»*.



Сергей Калякин.

СТАЛО ИЗВЕСТНО

## Без «единого» от оппозиции

Как стало известно, организаторы праймериз отказались от участия в президентских выборах. В распространенном заявлении сказано, что *«решение власти провести президентские выборы продиктовано желанием использовать пандемию в качестве дополнительного инструмента для дальнейшей узурпации власти и лишения белорусов права голоса»*.

*– Мы считаем, что полноценное участие в избирательной кампании в этих условиях невозможно. Мы благодарим всех граждан Беларуси, которые приняли активное участие в процедурах Народного голосования, за поддержку наших усилий по определению единого кандидата*, – заявляют в штабе. – *Мы признаем, что в нынешних обстоятельствах невозможно реализовать все процедуры и определить единого кандидата.*

СЛЫШАЛИ?

## Минчанка Наталья Кисель заявляет…



Как стало известно, участвовать в президентской гонке намерена и **Наталья Кисель, индивидуальный предприниматель, замдиректора транспортной компании по грузоперевозкам.**

**Ей** 51 год, живет в Минске. Замужем, имеет двоих детей. Одно время была антикризисным управляющим.

Светит ли ей победа – прогноз туманный. К политике до этого времени она не имела никакого отношения.

## Андрей Дмитриев: «Я умею добиваться, чтобы государство слышало людей»



Сопредседатель общественного объединения «Говори правду» **Андрей Дмитриев** также имеет намерение выдвигаться кандидатом на пост президента.

*«Я, Андрей Дмитриев, собираюсь выдвигаться кандидатом в президенты»*, – заявил он во время онлайн-трансляции в Facebook на странице объединения.

При этом он отметил, что много раз помогал людям, попавшим в беду. *«Умею добиваться, чтобы государство слышало людей. Теперь в беде оказались мы все вместе. Последние два месяца команда «Говори правду», как и тысячи белорусов по всей стране, шили маски, собирали щитки, помогали врачам, помогали людям, делая то, что должна была делать власть. Это безумно злит. Это возмущает, но и дает мне надежду. Наши люди, белорусы, умные, деятельные и сострадательные. Мы знаем, как надо, и умеем действовать сообща»*, – сказал Дмитриев.

По его мнению, *«власть больна сердечной недостаточностью, а ее методы совершенно устарели, и мы с этой бедой еще пять лет точно не хотим»*.

Сопредседатель организации **Татьяна Короткевич**, которая баллотировалась в президенты в 2015 году, станет главой инициативной группы Дмитриева.

СМЕХОТУРА

## Опять под копирку?



Появилось сообщение, что претендовать на пост президента желает и житель Витебска **Владимир Провальский**. Такая попытка у него уже была в 2010 году. Но из 109.338 представленных для регистрации подписей за его выдвижение действительными оказались только 118. По мнению Центризбиркома, все остальные были скопированы.

Что, он и на этот раз посмешит электорат?

В НОМЕР!

## Анна Канопацкая не останется в стороне?

Она, судя по ее сообщению, арендовала зал в «Президент-отеле» и сегодня сделает заявление о своем участии в президентской кампании. Участникам брифинга обещан фуршет.



КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

### Запаветнае жаданне

Мне не трэба замак залаты
(Дзякуй богу, не жыву ў бараку),
Досыць мне было б зрабіцца тым,
Кім здаюся я свайму сабаку.

### А ў старасці – склероз

Жывём мы разгульна парой:
Забавы, гарэлка – гарой,
І ўсё не здаецца пустым.
– У старасці ўспомнім затым! –
Гаворым нібыта ўсур'ёз.
А ў старасці – бац! – і склероз…

### Не пазнала…

Дасюль штодня хадзіў паддатым
І ўрэшце ўзяўся ён за розум.
Аднойчы вечарам дахаты
Прыйшоў не п'яным, а цвярозым.
Прагнала жонка, як прыблуду,
Яшчэ і мовіла са здзекам:
– Ды нават размаўляць не буду
Я з незнаёмым чалавекам!

### Аб'ява ў газеце

«Для стварэння моцнае сям'і
Прагну пазнаёміцца з мужчынам.
Жыць хачу няхай і не ў раі,
Толькі каб усё было чын чынам.
Вас пазнаю я ў людской гурбе
(І ў сур'ёзнасць заадно паверу) –
Майце футра з норкі пры сабе
Пяцьдзясят чацвёртага памеру…»

### Дзіўная віягра

Сям'я прыехала на дачу.
Муж увіхаўся, як мураш,
І выдаў жонцы справаздачу:
– Паправіў плот пахілы наш,
На кухні кран давёў да ладу –
Вада дарэмна не цячэ,
На градах высадзіў расаду…
Што трэба тут зрабіць яшчэ?
Тады й падумала жанчына:
«Такі работнік, што ого!
Віягра нейкім дзіўным чынам
Падзейнічала на яго…»

### Хто на што гатовы

– Дачушка! Заўтра я гатова
Сваё жыццё пачаць нанова.
Худзець пачну я – есці меней,
Не пхаць у рот аладкі жменяй.
Закіне цыгарэты тата,
Хаця дасюль курыў заўзята.
А ты, дачка, якую звычку
Забыць гатова, быццам знічку?
Свой позірк апусціла долу:
– Ну, я гатова кінуць школу…

### Вось такое кіно…

– Красуня! А гайда ў кіно!
Бо я ў кіно не быў даўно.
Апошні рад і ў зале цьма…
– Білеты ёсць?
– Ды не, няма.
– Ну а ці ёсць хаця б кандомы?
– Пра што ты кажаш! Ёсць, вядома!
Не мецьмем мы з табой праблем –
Чатыры штукі!
– А хадзем!

### Чаму мама сумная

Жанчына з хлопчыкам малым
Дахаты едуць у трамваі.
Насупраць – дзядзька.
П'яны ў дым,
Ды марку, так сказаць, трымае.
Стаў падбіваць мужык кліны
Да незнаёмае жанчыны:
– Чаму настрой такі дурны?
Няўжо на гэта ёсць прычыны?
Дала жанчына дзядзьку знак,
Што заляцанні – недарэчы,
Не да цябе, маўляў… Аднак
Звярнуўся дзядзька да малечы:
– Чаму ж у мамы хмурны від
І сумныя такія вочы?
Яе пакрыўдзіў ты, бандыт?
– Стамілася і пісяць хоча…

### Норма ападкаў за месяц

Маці наказвала сыну:
– Еду надоўга ў адведкі.
Дык на цябе я пакіну
Нашы вазоны і кветкі.
Іх палівіцьмеш на тыдзень
Тройчы вадою з-пад крана.
А як забудзешся, злыдзень,
Будзе напотым пагана.
Месяц мінуў. І з вакзала
Сыну званочак, вядома.
Весела маці сказала:
– Я ўжо вярнулася! Дома
Буду хвілінак праз дзесяць.
Сэрца забілася ў дзеткі…
Норма ападкаў за месяц
Выпала раптам на кветкі.

### Надзея не спраўдзілася

Раптам злёг у ложак мільянер.
Чутку, што дзядуля памірае,
Прыняла радня ўся напавер,
Тут жа прыляцела, быццам зграя.
– Доктар, а надзея ёсць у нас?
– Абнадзейваць дужа я не буду:
Пацыенту паміраць не час –
Ён схапіў звычайную прастуду…

ИЗ ПОЧТЫ ГЛАВНОГО РЕДАКТОРА

# Верните льготы почетным донорам

Добрый день, Иосиф Павлович и все сотрудники редакции!

Много лет читаю «Народную Волю», хотя раньше было трудно ее найти – печаталась за границей, в киосках не продавалась. Теперь, слава Богу, могу выписать и каждые вторник и пятницу жду свою любимую газету. Сын так и говорит: «Пришла твоя любимица».

Сегодня хочу поделиться своими раздумьями. Вот смотрела по телевизору, как в Москве люди стоят в очереди, чтобы сдать кровь. Поздравляли почетных доноров, и мне было очень приятно, потому что и я имею такое звание. Я стала сдавать кровь в 20 лет и сдавала регулярно через каждые 56 дней по 460 граммов. За это я получала 23 рубля и один день к отпуску. Деньги, конечно, были нелишними. Тогда я работала на железной дороге стрелочницей, месячная зарплата составляла 70 рублей.

Вышла замуж, и муж также стал сдавать кровь. У него родители погибли, когда ему было 5 лет. Тяжело складывалась жизнь. Да и когда мы создали семью, помощи ни от кого не было. Мои родители были колхозниками, их душили налогами. На детей, а их у нас было трое, ничего не получали. 56 дней декретных, а дальше как хочешь: или выходи на работу, или увольняйся. Но как-то выжили. Теперь удивляюсь, откуда у нас кровь бралась, питались-то мы скромно, а работали много. Правда, для нас, доноров, были определенные льготы. Так, лекарства могли купить со скидкой 10 процентов. Был бесплатный проезд в городском транспорте.

Когда распался Советский Союз, на первых президентских выборах и я, и муж голосовали за А.Г.Лукашенко. Думали: жизнь для простых людей станет лучше. Но спустя какое-то время поняли, что ожидать какого-то улучшения не приходится. Те льготы, которые имели почетные доноры, ликвидировали. Даже в поликлиниках сняли вывески с надписью, что такие, как мы, могут попасть к врачу без очереди. Очень обидно стало!

Мне теперь 83 года, живу одна. Похоронила двух сыновей и мужа. Болезней море: аритмия, сахарный диабет, катаракта обоих глаз, инсульт перенесла, но, слава Богу, хожу потихоньку, дали только третью группу инвалидности, сказали, что вторая не положена. Половину пенсии, считай, отдаю на лекарства и квартиру и опять, как в детстве, живу впроголодь.

Работала до 73 лет. Сын помогает, но у него тоже беда: у жены в 60 лет случился инсульт, он ей уделяет внимание и, выкроив час-другой, бежит ко мне.

Напечатайте, пожалуйста, мое письмо, пусть почитает президент А.Г.Лукашенко. Может, вместе с правительством задумается, как вернуть льготы почетным донорам. В свое время мы спасали людей. А теперь вот сами оказались в трудном положении.

**С уважением к редакции –**

**Анна Александровна ГРАКОВИЧ, ветеран труда и почетный донор.**
*Минск.*

ПОГЛЯД

# Гісторыя просіцца на сцэну

Добры дзень, паважаная рэдакцыя «Народнай Волі»!

Чытаючы вашу газету, я даведваюся шмат цікавага пра нашу гісторыю і яе слаўных дзеячаў, пра сучасную палітыку нашай дзяржавы, пра нашу культуру, мастацтва, музыку, літаратуру, пра выдатных суайчыннікаў, якія з'яўляюцца здабыткам і гонарам нашай краіны.

У «Народнай Волі» за 29 красавіка я з вялікай цікавасцю прачытала артыкул Міхася Скоблы «Два падарожжы з Алесем Петрашкевічам». Аўтар расказаў аб Петрашкевічу як аб чалавеку энцыклапедычных ведаў, гісторыку і драматургу, які напісаў 19 п'ес на гістарычныя тэмы.

Мне пашчасціла ў 2002 годзе прысутнічаць на сустрэчы з пісьменнікам, на якой прэзентавалася яго кніга «Воля на крыжы». У яе ўвайшлі пяць п'ес –«Гора і слава», «Меч Рагвалода», «Напісанае застаецца», «Прарок для Айчыны» і «Воля на крыжы». Я з задавальненнем і сёння перачытваю гэту кнігу, бо ў ёй аўтар адлюстраваў лёс нашай краіны, нашага народа, шмат у чым трагічны.

У першай п'есе А.Петрашкевіч паказаў хрышчэнне Русі князем Уладзімірам. Героі другой – полацкі князь Усяслаў Чарадзей і яго ўнучка Еўфрасіння Полацкая, наша асветніца. У аснове п'ес «Напісанае застаецца» і «Прарок для Айчыны» – жыццяпіс нашага асветніка Францыска Скарыны, чые кнігі знішчаліся ў змрочныя часы Сярэднявечча. У адчаі першадрукар у п'есе гаворыць: «*Нарадзіўся я, відаць, зарана на сваёй шматпакутнай зямлі. Паспяшаўся стаць прарокам у сваёй Айчыне*». А трагедыя «Воля на крыжы» пераносіць нас у не менш змрочныя часы сталіншчыны, калі рэпрэсаваліся і знішчаліся самыя таленавітыя, самыя адданыя Беларусі людзі, у ліку якіх быў і Янка Купала.

Як піша Міхась Скобла, «*плён Петрашкевіча-драматурга – гэта насамрэч драматургічны эпас, які ўвабраў у сябе ўсе вузлавыя падзеі беларускай гісторыі амаль за 1000 гадоў*». І як жа шкада, што з 19 Петрашкевічавых п'ес на сцэну не трапіла ніводная! Па чыёй зламыснай волі так атрымліваецца, што тытанічная праца таленавітага драматурга ў нашай краіне не запатрабавана і можа ператварыцца ў сізіфаву?

Праз «Народную Волю» я хачу звярнуцца з просьбай да кіраўніцтва Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы – дырэктара Паўла Латушкі і галоўнага рэжысёра Мікалая Пінігіна: калі ласка, звярніце ўвагу на п'есы Алеся Петрашкевіча! Магчыма, нейкі твор вас зацікавіць і атрымае сцэнічнае жыццё. Гледачы будуць вам за гэта ўдзячны. Бо гістарычных п'ес на сцэнах беларускіх тэатраў сёння яўна не хапае.

**А.С.ЮРКЕВІЧ, настаўніца рускай мовы.**
*Мінск.*

ПАЗІЦЫЯ

# Няма нагоды для радасці, але і панікаваць не трэба

Адкрыеш некаторыя сайты – хоць памірай, не чакаючы, калі цябе напаткае каранавірус. У такіх чорных фарбах малююць сітуацыю ў краіне, што, здаецца, больш трагічных старонак у гісторыі Беларусі не было.

Так, сёння няма нягоды для вялікай радасці. Пандэмія ахапіла ўвесь свет, не абышла яна і нас. Больш за дваццаць тысяч чалавек захварэлі, колькасць тых, хто не вытрымаў, памёр, ужо пераваліла за сотню. Нельга дакладна спрагназаваць, калі ўдасца ўтаймаваць злога віруснага бандзюгу.

Але ж не трэба, я лічу, і адчайвацца. Не трэба тым правакацыйным сайтам раскручваць сітуацыю так, быццам для беларусаў гэта поўны калапс. Эпідэмія ёсць эпідэмія, яна, вядома, не можа абысціся без ахвяр. У той жа час усё наша жыццё звязана з пэўнымі ахвярамі. Можна давяраць ці не давяраць афіцыйнай статыстыцы, але зусім не звяртаць увагі, не аналізаваць яе лічбы нельга. Глядзіце, сёлета за чатыры месяцы ў нас зафіксавана 97 смяротных сыходаў пацыентаў з COVID-19. А што, ад іншых захворванняў людзі не паміралі? Паміралі, і ў значна большай колькасці. За студзень–красавік смерць ад хвароб сістэмы кровазвароту напаткала амаль 25 тысяч чалавек, ад анкалагічных захворванняў – прыкладна 6,4 тысячы.

Калі я аналізаваў афіцыйную статыстыку, то, вядома ж, здрыгануўся ад такой лічбы: за чатыры месяцы 482 чалавекі ў нас загінулі ад атручвання алкаголем. Ну якая сіла падштурхнула іх да такой гнюснай смерці?

І яшчэ адзін вельмі трывожны факт. За невялікі адрэзак часу скончылі жыццё самагубствам 470 чалавек. Вось пра што трэба крыкам крычаць! Якія прычыны ляжаць у аснове такіх учынкаў? Я пражыў больш за 70 гадоў і магу сказаць, што некалі гэта было рэдкасцю. Мабыць, і дзяржава многае ўпусціла, і грамадскасць стала абыякавай да такой ганебнай з'явы, як самагубства. Ды і з боку царквы не чуваць асаблівага асуджэння. Адным словам, тут клубок прычын, і чым раней ён будзе раскручаны, тым больш людзей застануцца жыць на гэтым свеце.

Калі я ўжо пачаў паглыбляцца ў тэму, то скажу: за студзень–красавік у Беларусі загінулі на пажарах 218 асоб, на дарогах падчас транспартных аварый – 163, утапіліся ў рэках і азёрах 89 чалавек. Можаце ўявіць, колькі гэта сямейных трагедый! Ды і які велізарнейшы ўрон для дзяржавы!

Што і казаць, нялёгкія часіны перажывае ўвесь свет, а разам з ім і наша Беларусь. Ніхто не можа сказаць, калі каранавірусная пандэмія будзе спынена. Сапраўды, няма нагоды для радасці, але ж і панікаваць не трэба. Давайце спадзявацца на тое, што пройдзе нейкі час – і вірусная зараза выдыхнецца, жыццё ўвойдзе ў звычайную каляіну. І трэба думаць, як нам, беларусам, вырашаць многія іншыя праблемы. Нельга ж столькі жыццяў губляць не з-за пандэміі, а, скажам шчыра, абсалютна па сваёй віне. Пагадзіцеся, лічбы, якія я прывёў у гэтым лісце, уражваюць і трывожаць.

**Віктар МАСАРЧУК, тэхнолаг.**
*Магілёў.*

ПРАШУ СЛОВА!

# Феномен «любові» да малой радзімы ў Крычаве

На Магілёўшчыне знаходзяцца некалькі гарадоў, якія ўваходзяць у топ-20 самых старажытных населеных пунктаў Беларусі. У гэты спіс трапляе і горад Крычаў, які доўгі час быў адным з усходніх фарпостаў спачатку Вялікага Княства Літоўскага, а пасля Рэчы Паспалітай, які абараняў ад маскавіцкай навалы. Горад з вельмі багатай гісторыяй зараз, аднак, перажывае не самыя лепшыя, нават можна сказаць, драматычныя часы. Менавіта такі прыметнік падыходзіць для апісання тых працэсаў, што адбываюцца з гісторыка-культурнымі аб'ектамі ў Крычаве. Падзеі апошніх часоў наводзяць на змрочныя думкі. Абыякавае стаўленне да гарадской гісторыі не проста здзіўляе, а абурае. Больш за тое, такое стаўленне да мінуўшчыны радыкалізуе настроі гараджан, падштурхоўвае да нейкіх рашучых дзеянняў, рэзкага рэагавання на тупасць і бяздарнасць.

Знакаміты палац Пацёмкіна–Галынскіх.

Мне як гісторыку цяжка і балюча бачыць тое, што адбываецца ў родным горадзе. Адносна нядаўна ў старой частцы Крычава, каля Свята-Уваскрасенскай царквы, пачаліся будаўнічыя работы. Прылеглая да царквы тэрыторыя не так даўно была часткай невялікай паркавай зоны і, у прынцыпе, да культавай пабудовы ніяк не адносілася. У апошнія ж часы адна трэць парку была далучана да тэрыторыі царквы і адгароджана жалезным плотам. З гэтага пачалося паступовае ўладкаванне новай прыцаркоўнай тэрыторыі. «Прыборка» тэрыторыі прывяла да таго, што былі спілаваны і выкарчаваны дрэвы. Аднак далей – болей. Большай праблемай з'яўляецца тое, што на цяперашняй прыцаркоўнай тэрыторыі пачаліся будаўнічыя работы. Месца, на якім размешчана царква, з'яўляецца гістарычным цэнтрам горада з багатым культурным слоем. Таму перад тым, як пачаць работы, варта было б звярнуцца да гісторыкаў, а лепш – да археолагаў, каб сумесна абследаваць тэрыторыю. Нічога падобнага айцом Сергіем, які з'яўляецца протаіерэем царквы, зроблена не было. Калі з пэўным піетэтам падыходзіць да зямлі, на якой жывеш, то такія канфлікты паміж навабудам і гістарычнай памяццю народа выключаны. Гэты ж выпадак якраз сведчыць зусім пра адваротнае.

Яшчэ больш сумная сітуацыя адбываецца на Замкавай гары, якая з'яўляецца старажытным дзядзінцам і знаходзіцца зусім блізка ад цэнтра старой часткі горада. На гарадзішчы лакалізуецца Свята-Мікалаеўская царква, у якой пяць дзясяткаў гадоў служыў айцец Міхаіл Макаўцоў. Ён быў па-сапраўднаму народным бацюшкам, мог распавесці пра старадаўні помнік цікавыя выпадкі і нават легенды, а за шмат гадоў служэння ў царкве ніякай шкоды ўнікальнаму аб'екту археалогіі не чыніў, да і сам быў зацікаўлены ў захаванні старадаўняга гарадзішча. Чаго не сказаш пра новага айца Андрэя Ігнатушку, які стаў настаяцелям храма ў 2011 годзе. Малады бацюшка, які з'яўляецца ўраджэнцам Крычава, не надта лічыцца з унікальным аб'ектам і паводзіць сябе з Замкавай гарой, нібыта яе гаспадар. Практычна адразу пасля свайго прызначэння на пачатку лета 2012 года айцец Андрэй заняўся ўладкаваннем уваходу на Замкавую гару і ў царкву, зруйнаваўшы некалькі метраў вала. Цяпер уезд на Замкавую гару пашыраны пры дапамозе экскаватараў і бульдозераў. І вось зусім нядаўна гэтая гісторыя займела свой сумны працяг.

Пры ўваходзе на гару з правага боку знаходзіцца хрысцільня, ці баптыстэрый, невялікая драўляная пабудова. Да яе ў ранейшыя часы быў прыбудаваны невялічкі гаспадарчы склад. Бацюшка Андрэй, які знакаміты сваімі амбіцыйнымі планамі, вырашыў знесці гаспадарчую прыбудову, а замест яе размясціць цагляную царкоўную лаўку. Аднак месца для лаўкі аказалася мала, і вырашана было зруйнаваць пару метраў вала. Будаўнічыя працы пачаліся адносна нядаўна, але ж цяпер яны ўжо на стадыі стварэння падмурка.

Такім чынам, за восем гадоў служэння айца Андрэя ў Свята-Мікалаеўскай царкве ўнікальнаму археалагічнаму помніку была нанесена вялікая шкода. Зразумела, што ні ў першым, ні ў другім выпадку будаўнічыя работы не ўзгадняліся з прафесійнымі гісторыкамі ці археолагамі. Не прыцягваліся да абмеркавання і мясцовыя краязнаўцы, якія маглі б быць для святара крыніцай ведаў і добрымі памочнікамі і дарадцамі. Закон «крэатыўны» бацюшка таксама не парушыў, бо Замкавая гара не ўзята пад ахову дзяржавы і не ўваходзіць у спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Крычаўскага раёна. Пры гэтым драўляная Свята-Мікалаеўская царква якраз у гэты спіс уваходзіць. Такі вось парадокс: драўляная царква мае статус гістарычнай каштоўнасці, а вось гарадзішча «Замкавая гара» (нашмат больш старажытнае паводле часу з'яўлення), на якім знаходзіцца культавы аб'ект, важным і ўнікальным не лічыцца.

Відавочна: разумення, што іх дзеянні шкодныя, у мясцовых царкоўных дзеячаў няма. Бацюшкі абодвух цэркваў у Крычаве даволі вольна ставяцца да ўнікальных аб'ектаў археалогіі і гарадской гісторыі, якія бясспрэчна з'яўляюцца гісторыка-культурнай спадчынай старадаўняга Крычава. Ці маюць яны права на такое абыходжанне з гісторыяй горада? Наогул адкуль узялася такая непавага да гістарычнай спадчыны? Не выключана, канешне, што гэта банальная абыякавасць і неразуменне важнасці для наступных пакаленняў жывых гістарычных аб'ектаў, якія адлюстроўваюць мінулае старадаўняга горада. А, як вядома, той хто забыўся на мінулае, не мае і будучыні.

Пры гэтым адзначу, што на Замкавай гары, у паўночнаўсходняй яе частцы, знаходзяцца вельмі цікавыя і ўнікальныя рэшткі цагляных умацаванняў. Пры гэтым па ўсіх інвентарных апісаннях вядома, што замак і замкавыя ўмацаванні былі драўляныя. На сённяшні дзень стан іх кепскі, з кожным годам яны ўсё больш і больш разбураюцца пад уздзеяннем часу і ападкаў.

Ні прадстаўнікі мясцовай улады, ні служыцелі Свята-Мікалаеўскай царквы не праяўляюць ніякай ініцыятывы, каб захаваць унікальны помнік гісторыі не толькі для горада, але і для ўсёй Беларусі. Добра, што ён хаця б проста існуе, а не зруйнаваны, як іншы цікавы аб'ект гарадской гісторыі – старая вінакурня, у якой у савецкія часы знаходзіўся мясцовы піўзавод. Гэты помнік прамысловай гісторыі Крычаў страціў назаўжды. У каго з'явілася «геніяльная» ідэя зруйнаваць рэшткі вінакурні, сказаць цяжка. Аднак можна з дакладнасцю адказаць, што глуздоў у такога ініцыятара – кот наплакаў.

Трэба прызнаць, што ад былога піўзавода заставаліся рэшткі, і знаходзіліся яны ў аварыйным стане. Але каму яны перашкаджалі і чаму менавіта цяпер спатрэбілася руйнаваць гэты прамысловы аб'ект з даўняй гісторыяй? Замест таго каб захаваць вінакурню, зрабіўшы гарадской адметнасцю, паспрабаваць хаця б часткова рэканструяваць, уключыўшы ў турыстычны маршрут па горадзе, яе знішчылі. Цяпер на месцы былой вінакурні знаходзяцца некалькі пагоркаў з будаўнічым смеццем, кавалкі сцен са старой чырвонай цэглы, а таксама частка не да канца зруйнаваных падмуркаў. Відовішча вельмі сумнае, выклікае пачуцці гневу і шкадавання. Застаецца толькі спасылацца на адсталасць і убогасць мыслення арганізатараў і выканаўцаў знішчэння помніка. Толькі задумайцеся: стары прамысловы аб'ект горада быў знішчана ў незалежнай краіне самімі яго жыхарамі!

Дзе тут логіка і ці прысутнічае яна наогул у падобных справах? Чаму мясцовая ўлада ніяк не рэагуе на відавочны факт злачынства? Больш за тое, гэта сумная падзея прайшла зусім неасветленай у мясцовай газеце, якая пяе толькі аб поспехах і дасягненнях раённай улады. А ў рэальнасці адбываюцца вось такія жудасныя рэчы. Відавочна, што ніякага пакарання злачынцам, якія руйнуюць гістарычныя аб'екты горада, не прадугледжана, бо вінакурня таксама не была ўнесена ў спіс гісторыка-культурнай спадчыны. І ўсё гэта робіцца ў Год малой радзімы! Вось такая любоў да сваёй малой радзімы ў Крычаве: зруйнаваць – гэта на раз-два, а вось захаваць, на вялікі жаль, розуму не хапае.

Шкада, што мясцовыя актывісты далей за ўсталяванне чарговай самаходкі ці гарматы не бачаць багацейшай і надзвычай цікавай гісторыі Крычава. З сумам магу канстатаваць, што часта ініцыятывы ў сферы гістарычнай памяці ў горадзе вылучаюцца адыёзнасцю і недарэчнымі прапановамі. Прыкладам можа стаць ідэя мясцовага гістарычнага музея стварыць пакоі Кацярыны II. Гэта, мякка кажучы, дзіўна. Сапраўды, Кацярына аднойчы была ў горадзе, бо нават адна са старых дарог, насыпы ад якой бачны да сённяшняга часу, называецца Кацярынінскім шляхам. Але ці варта адзін візіт манархіні іншай дзяржавы да свайго каханка графа Пацёмкіна музеефікаваць? Сёння ўжо не выклікае здзіўлення, што ў палацы Пацёмкіна–Галынскіх, дзе знаходзяцца музей і мясцовы загс, праводзяцца мерапрыемствы ў стылі Кацярыны II і Пацёмкіна, што не толькі не актуалізуе беларускую гісторыю, а прапагандуе гістарычных персанажаў іншай дзяржавы. Вельмі хочацца, каб не забывалася гісторыя нашай краіны, аднак, як паказвае практыка, не ўсюды гатовы шанаваць уласную мінуўшчыну і захоўваць яе для нашчадкаў.

**Алесь КРЫЖЭВІЧ.**

СТИЛЬ ЖИЗНИ

# Алкоголь во время пандемии: чего опасаются немецкие эксперты

*Люди, страдающие алкогольной зависимостью, сейчас находятся в тяжелом положении. Самоизоляция может привести к росту потребления алкогольных напитков.*



Немцы во время карантина стали больше покупать алкогольных напитков. По данным общества маркетинговых исследований GfK, 30 тысяч опрошенных семей и домашних хозяйств в марте купили на треть больше алкогольных напитков, чем за аналогичный период 2019 года. Это касается не только вин, но и более крепких напитков, таких как джин и водка.

Таким положением дел обеспокоены эксперты и политики. Уполномоченная федерального правительства по наркополитике **Даниэла Людвиг** заявила, что *«коронавирусная инфекция подвергает людей, страдающих алкогольной зависимостью, еще большей изоляции»*.

Более 2500 групп анонимных алкоголиков, которые до карантина регулярно встречались, чтобы обсудить свои проблемы, во время пандемии стараются поддерживать контакт с помощью современных технологий. **Маркус Шиммельпфеннинг**, эксперт по проблемам, связанным с алкогольной зависимостью, подчеркивает, что это не может заменить встреч и живого общения. В такой сложной ситуации оказались люди, страдающие алкогольной зависимостью.

### Сместились приоритеты

По данным экспертов, объем продаж алкогольных напитков по сравнению с тем же периодом прошлого года возрос на 87,1 процента. Это относится и к крепким напиткам, как шерри и портвейн, употребление которых выросло на 47,5 процента. Что касается пива, то рост продаж этого напитка в супермаркетах и других торговых точках по сравнению с этим же периодом прошлого года составил лишь 11,5 процента. Эксперты считают, что это связано с тем, что по всей стране закрыты пивные бары и рестораны, которые до пандемии были основными клиентами пивоварен.

Психолог из города Эссена **Кристиан Людке** предостерегает от злоупотребления алкоголем во время самоизоляции. «*Многие люди, которые жили по правилу «5 и 2» (пять дней рабочей недели не употребляли алкогольных напитков и лишь в выходные дни позволяли себе выпить пива или вина), в период самоизоляции поступают с точностью до наоборот. Таким образом, сместились приоритеты: время, которое они проводят дома в условиях самоизоляции, воспринимается как затянувшиеся выходные дни или отпуск в собственных четырех стенах. И это нередко становится причиной злоупотребления алкоголем*», – подчеркивает психолог.

В самом начале самоизоляции гуляла шутка: я пью пиво марки «Corona» против одноименного вируса. За ней скрывался нехитрый подтекст: высокопроцентный алкоголь убивает микробы и вирусы, а это значит, что выпивать каждый вечер – не грех. «*Многие так и поступают, а на самом деле получается, что они наносят вред своему здоровью, понижая иммунитет и впадая в алкогольную зависимость,* – предостерегает психолог **Людке** и добавляет: – *Крепкое здоровье начинается с трезвой во всех смыслах этого слова головы*».

### Работа на удаленке располагает к употреблению алкоголя

Уже в самом начале пандемии и связанного с ней локдауна, введенного в большинстве стран, Всемирная организация здравоохранения предупреждала о том, что во время социальной изоляции в мире увеличится употребление алкогольных напитков и, как следствие, появится больше людей, которые попадут в зависимость от алкоголя. Такой прогноз может оказаться верным, считает медицинский директор Центрального института душевного здоровья в Мангейме **Фальк Кифер**.

*«У меня пока нет цифр, подтверждающих эти прогнозы, но есть ощущение, что люди во время самоизоляции стали больше пить. Многие считают, что алкоголь снимает стресс и ослабляет чувство тревоги и страха. Именно эти эмоции преобладают во время пандемии. Их пытаются снять алкоголем»*, – считает эксперт. Мало того, по его мнению, у многих изменился и образ жизни: стали необязательными ежедневные поездки на работу, встречи с коллегами, отпали другие обязательства. Все это способствует тому, что многие позволяют себе не только расслабиться за бутылкой вина, но даже втягиваются и постепенно впадают в алкогольную зависимость. *«Люди, не страдающие алкогольной зависимостью, легко могут дозировать или вовсе отказаться от употребления алкоголя. Однако в режиме самоизоляции есть опасность того, что уровень самоконтроля снижается»*, – предполагает Фальк Кифер.

Многие эксперты, занимающиеся изучением алкогольной и наркотической зависимости, склоняются к не очень оптимистичным прогнозам: во время пандемии и вынужденной социальной изоляции, которая может продлиться еще некоторое время, число людей, страдающих алкоголизмом, заметно возрастет.

ОТДЫХ-2020

## Пляжи останутся закрытыми…

*В Израиле на совещании правительства министры внутренней безопасности и внутренних дел предлагали официально открыть купальный сезон и вернуть на пляжи спасателей. На тель-авивских пляжах уже ставят лежаки и зонтики. Однако Минздрав настоял, чтобы с наступлением летней жары пляжи остались закрытыми.*

Ни о каких попытках разработать «фиолетовый стандарт» для пляжного отдыха, как это сделано для каньонов (торговых центров), рынков и национальных парков, пока не сообщается.

В море и на морских берегах разрешено заниматься спортом, но не купаться и загорать. Все пляжи на берегах Кинерета перекрыты шлагбаумами на дальних подступах. Однако на парковках немногочисленных «диких» озерных пляжей уже полно машин и многолюдно даже в будни.

В полиции опасаются, что в ближайшие выходные израильтяне массово ринутся на морские пляжи, невзирая на сохраняющуюся угрозу штрафов, и сдержать натиск желающих отдохнуть будет очень сложно. В новых условиях отделить дозволенные радости от запретных полицейским будет нелегко, но чрезвычайные указы все еще действуют, и нарушителям грозят штрафы.

ПОЛИТИКА

## Саакашвили все-таки вошел в украинскую власть

*Он возглавил исполком Совета реформ.*

Этот совет был создан в августе 2014 года предыдущим президентом Украины Петром Порошенко и должен был стать консультативно-совещательным органом, который занимается стратегическим планированием государственной политики реформ и ее реализацией. Главой совета является президент Украины, он же формирует персональный состав этого органа.

Судя по информации на сайте президента Украины, за время своего существования Национальный совет реформ провел 28 заседаний, все при президентстве Петра Порошенко.

Особого резонанса в украинском обществе деятельность Совета реформ не приобрела.

РАКУРС

# Станет ли велосипед городским транспортом будущего?

*Во многих странах строгие карантинные меры постепенно ослабляются. В города возвращается жизнь, но страх остается: политики ломают голову над тем, как, выпустив миллионы людей на улицы, избежать второй волны заражения. При походе в офис, магазин и даже ресторан можно минимизировать риск для здоровья, но как себя обезопасить в общественном транспорте?*

Страх перед толпой неизбежно приведет к поиску альтернативных способов передвижения, считают эксперты. Чтобы спасти города от выхлопных газов и многочасовых пробок, власти многих европейских стран делают ставку на велотранспорт.

*«Велосипед – самая дешевая и эффективная альтернатива. Для того чтобы сделать велосипедные маршруты доступными, не нужно менять морфологию города»,* – считает профессор архитектуры мадридского университета CEU San Pablo **Карлос Ф.Лахоз**.

В период с мая по сентябрь итальянский Милан планирует оборудовать 35 километров новой велосипедной инфраструктуры. В Брюсселе велосипедисты временно займут полосы на главных городских улицах. Во многих районах бельгийской столицы максимальная скорость движения автотранспорта снизится до 20 км/ч.

«*То, что мы наблюдаем сейчас по всей Европе, – это новая велосипедная политика, новая велосипедная инфраструктура, временная и постоянная. Это верный ответ на санитарный кризис, потому что на велосипедной дорожке легко держать дистанцию. Между людьми как минимум пара колес*», – сказал Euronews сопрезидент Европейской ассоциации велосипедистов **Мортен Кабелл**.

Во Франции, где смягчение карантина началось 11 мая, власти планируют потратить 20 миллионов евро на поддержку этого вида транспорта. Чтобы побудить французов крутить педали, правительство выделит владельцам велосипедов чуть более 50 евро на починку железного коня в специализированных мастерских. Также страна планирует оборудовать временную велосипедную инфраструктуру в том числе за счет автомобильных полос.

«*Мы хотим, чтобы этот период стал переломным для велокультуры и чтобы для велосипеда после выхода из карантина настал звездный час*», – написала в своем Twitter министр комплексных экологических преобразований страны **Элизабет Борн**.

Некоммерческие организации критикуют европейских политиков за то, что большинство из принимаемых мер носят временный характер. «*Временные меры прекрасно подходят, чтобы показать преимущества велосипедов и большего числа пешеходов. Но, конечно, временных мер недостаточно, нужны и постоянные. Больше городов должны превратиться в Копенгаген или Амстердам*», – считает Мортен Кабелл.

По его словам, велосипеды не только более здоровый, но и более эффективный способ передвижения, поскольку велодорожка способна пропускать на семь человек больше, чем автомобильная. «*Нет никаких сомнений, что велосипеды – будущее европейских городов*», – цитирует его Евроньюс.

Идея изменить транспортную структуру городов не нова. Французская столица задумала пересесть на велосипеды еще до начала пандемии. По официальным данным, в 2019 году велотрафик тут увеличился на 54%. В январе мэр Анн Идальго опубликовала концепцию развития Парижа как «15-минутного города», в котором торговые и рабочие узлы находятся в пешей или велосипедной доступности от жилых кварталов.

Но эксперты предупреждают, что в большинстве менее развитых городов такое устройство общественного пространства невозможно: рабочие места и школы находятся слишком далеко от жилых кварталов. В таких условиях избежать возврата к использованию общественного транспорта или автомобилей невозможно.

«*Нет смысла уговаривать жителя такого города три часа крутить педали, чтобы попасть на работу, а потом еще три часа, чтобы вернуться,* – считает американский социолог **Ричард Сеннет**. – *Проблема плотности населения и управление ею – ключ к пониманию того, как пандемия скажется на городах*».



УРАЖАННІ

# Не адпускаюць мяне Арабскія Эміраты!

Дзякаваць богу, на нашай планеце, нягледзячы на буйнамаштабную разбуральную дзейнасць чалавека, засталося яшчэ шмат чаго цікавага і непаўторнага. Мяне больш за ўсё вабяць краіны ўсходняга свету з іх багатай, нехарактэрнай для Еўропы культурай. Шкада толькі, што вельмі запознена з'явілася рэальная магчымасць (ніколькі не звязаная з фінансамі) наведваць іх. На маім рахунку толькі Туніс, Турцыя, Албанія, Егіпет і нарэшце – Аб'яднаныя Арабскія Эміраты (ААЭ).

Па аб'ектыўных прычынах зладзіў паездку ў ААЭ не ў самы разгар турысцкага сезона і ніколькі не прагадаў, бо тэмпература і паветра, і вады была нармальнай для еўрапейца. Люблю купацца ў моры, загараць на пляжы і ў 30–35 градусаў, што вельмі рэдка бывае ў роднай Беларусі.

Канцавым пунктам маёй турыстычнай паездкі стаў гатэль з запамінальнай прыгожай назвай «Marjan», размешчаны на ўзбярэжжы Персідскага заліва. Заўважу, што патрыятычна настроеныя арабы часцей называюць яго Аравійскім залівам, бо не жадаюць узгадваць час, калі іх краіна знаходзілася пад персідскім панаваннем. Прызнацца, я не збіраўся дзяліцца з чытачамі «Народнай Волі» сваімі ўражаннямі ад турыстычнай паездкі ў эміраты. Меркаваў, што ўсё ўбачанае хутка забудзецца па вяртанні ў родную Беларусь і ў мяне не будзе ніякага жадання ўваскрашаць яго ў памяці. Але атрымалася інакш...

Дык што ж засталося ў памяці ад наведвання ААЭ?

Найперш уразіла само месцазнаходжанне гатэля «Marjan». Яно проста ўнікальнае. На мелкаводдзі Персідскага заліва стварылі штучны востраў з не падлеглага размыванню грунту, розных жалезабетонных канструкцый, каменняў, а затым усё гэта засыпалі пяском – у пустынях яго хапае. Была задзейнічана цэлая армада розных відаў тэхнікі. Гэтаму стварэнню рук чалавечых далі назву Аль-Мард, што ў перакладзе на беларускую мову азначае «Верхняя частка палаткі». Знаходзіцца Аль-Мард на тэрыторыі эмірата Рас-эль-Хайма, які ў 1972 годзе ўвайшоў у склад ААЭ. Забудова вострава, яго добраўпарадкаванне вяліся вельмі хутка. Калі я туды прыехаў, ужо функцыянавала некалькі дыхтоўных, пабудаваных у адпаведнасці з патрабаваннямі часу гатэляў, мелася вялікая колькасць рознага кшталту службовых, вытворчых будынкаў, высокапавярховых жылых дамоў, былі пракладзены цудоўныя аўтамагістралі, паабапал якіх высаджана мноства прыгожых фінікавых пальмаў. На догляд кожнай з іх, галоўным чынам на паліў, штогод выдаткоўваецца прыкладна тысяча долараў. Мо калі б у бюджэтах нашых гарадоў хапала фінансавых сродкаў для догляду дрэў, высаджаных паабапал вуліц, дык не гінулі б яны ў такой колькасці.

Гатэль «Marjan» адпавядае самым высокім стандартам. Няма ніякіх прэтэнзій да абслугоўвання гасцей. Па-за ўсялякай крытыкі яго пляж, ад стану якога так моцна залежыць настрой турыстаў.



Кожнага, хто трапляе на тэрыторыю эмірата Рас-эль-Хайма ў якасці турыста, вядома, не могуць не вабіць экскурсіі, хоць і вельмі дарагія, у размешчаны недалёка Дубай. Тут ёсць чым захапіцца! На такую экскурсію з вялікім жаданнем пагадзіўся і аўтар гэтых радкоў.



У Дубаі ўсе імкнуцца ў першую чаргу наведаць самы высокі ў свеце 125-павярховы будынак – цуд сучаснай архітэктуры. Падаліся туды і пасажыры нашага аўтобуса. Але далёка не ўсе пагадзіліся выкласці з кішэні 65 долараў, каб на ліфце падняцца на самы высокі ў свеце паверх. Леанід Лыч не ўвайшоў у лік такіх. Як прынята казаць: «Прапала кароўка – няхай прападзе і вяроўка!» І вось я на 125-м паверсе! Ад усяго ўбачанага з такой вышыні вачэй было не адарваць! Шкада толькі, што доўга там не далі затрымацца – унізе ўжо чакала вялікая колькасць новых ахвотнікаў-верхалазаў.

Незабыўнае ўражанне на мяне, як і на ўсіх астатніх, зрабілі марскія фантаны, якія пачынаюць функцыянаваць вячэрняю парою.

Упэўнены, да канца майго жыцця не знікне з памяці ўбачанае пры наведванні сталіцы ААЭ Абу-Дабі. І цэлага дня не хапіла б для агляду яе славутых мясцін! Знаёмства пачалося з гатэля Emirates Palace, які з'яўляецца самым дарагім і раскошным у эміратах: на будаўніцтва выдаткавана каля 3 мільярдаў долараў. Пахвальна, што ў ім прысутнічаюць і элементы традыцыйнай арабскай архітэктуры, што нехарактэрна для многіх сучасных будынкаў. Уражваюць багацце, прыгажосць яго ўнутранага аздаблення. Золатам пакрыта 6 тысяч квадратных метраў паверхні гатэля!

У праграму нашай турыстычнай паездкі ўваходзіла наведванне ў Абу-Дабі Мячэці шэйха Зайда, адной з самых знакамітых у свеце. Узростам яна маладая – пабудавана ў 2007 годзе. Назва паходзіць ад імя першага прэзідэнта краіны. Увагу ўсіх нас прыцягнуў пасланы на падлозе дыван. Ён самы вялікі ў свеце: звыш 5600 квадратных метраў. Асвятляюць храм сем люстраў, самая вялікая з якіх важыць 12 тон. Галоўная зала мячэці разлічана на сем тысяч вернікаў. Мячэць мае чатыры мінарэты вышынёй 107 метраў. Думаю, што наведванне гэтай святыні на хрысціяніна, а то і на атэіста робіць не меншае ўражанне, чым на мусульманіна.

Прыемныя ўспаміны пакінуў і сам горад Абу-Дабі. На яго тэрыторыі дзейнічаюць каля 80 фантанаў! Цяжка паверыць, але гэта факт: на вуліцах горада растуць 40 мільёнаў фінікавых пальмаў, да кожнай з якіх падведзены шланг для паліву. Нават у самую спякоту велічныя дрэвы не зведваюць дэфіцыту вады.

Шкадую, што не надарылася магчымасці паразмаўляць з кім-небудзь з аўтарытэтных, кампетэнтных мясцовых асоб пра стан адукацыі ў ААЭ. Даведаўся, што навучальна-выхаваўчы працэс ажыццяўляецца выключна на арабскай мове, гэта вельмі важна, бо гарантуе карэннаму насельніцтву краіны ўсе ўмовы для прыстойнага этнакультурнага развіцця, нягледзячы на негатыўныя працэсы сусветнай глабалізацыі. Чужая ж мова ў сферы адукацыі – гэта немінучая смерць для любой нацыі, нават з самай выразнай этнакультурнай самабытнасцю.

Выношваў планы на пачатку 2020 года ў чарговы раз наведаць гэты цудоўны куток планеты Зямля. А тут Кітай нечакана падкінуў дзівосны «прэзент» – пандэмію каранавіруса, якая ўзрушыла ўвесь свет. Але, думаецца, чалавецтва здолее забіць асінавы кол у самае сэрца гэтай страшэннай навалы, і ў мяне з'явіцца магчымасць паўтарыць сваё падарожжа ў Аб'яднаныя Арабскія Эміраты. Высокі ўзровень сучаснай медыцыны верне людзям спакойнае жыццё, і сусветная турыстычная адысея, несумненна, будзе працягнута!

**Леанід ЛЫЧ, доктар гістарычных навук, прафесар.**

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



Елена МОЛОЧКО

# У идеологов слух пропал?

Покоробило: памятник узникам фашистского концлагеря на фоне яркой вывески «Ремонт одежды». Просто ржавой иголкой по сердцу. Какое-то идеологическое неряшество: скорбим, помним – и тут же «штаны перешить». Неужели никому в глаз не лезет такое «шило»? Впрочем, мы видим не глазами, а мозгом, и мыслительных способностей, возможно, утверждать, в данном случае у кого-то явно не хватило. Место братской могилы и сфера услуг – они что, обязательно должны пересекаться в одной точке, на мемориале у старинных Пушкинских казарм?

Конечно, город не музей, в нем нет места идеальной выставочной экспозиции. В двухмиллионном городе, естественно, и тут и там случается, что и свадьбы играют, и в последний путь провожают на одной и той же улице и в одно и то же время. Там пьют, здесь отпевают. И все же рядом с крематорием не строят дворец бракосочетания. Впритык к кладбищу мы не открываем детский сад. Рядом с мусорной свалкой не хотелось бы видеть церковь. Потому что в жизни есть понятия высокого и низкого, пафосного и обыденного, трагического и шутовского. Да, все это существует в реальности одновременно, но – в разных регистрах. Если играть на всех сразу, получится какофония. Мусор смыслов. А смыслы надо разводить по своим местам.





Обыденное – что? Оно неприхотливо. Коммерческие точки открываются в подвалах и на чердаках, в закутках и закоулках, в гаражах и подъездах. А о высоком – о нашей душе – надо сильно специально позаботиться. Высокому нужны особые условия. Например, театрам и концертным залам – дворцы. Изобразительному искусству – музеи. А памятникам и мемориалам – специально обустроенные пространства, их нельзя поставить лишь бы где, только бы примостить. Иначе – фальшь, насмешка, лицемерие. В лучшем случае просто ноль результата. Ну представьте: на площади Победы рядом с монументом маленький киоск «Пиводводы». Киоску, конечно, прибыль – такое внимание! А мемориалу? Оскорбление.

Вот и здесь – оскорбление. Владелец ремонтной мастерской, так "удачно" примостив свою вывеску на стене дома, сводит на нет трагический пафос мемориала, который установлен на пересечении улиц Якуба Коласа и Калинина. И это надо срочно исправить! Кто кому должен уступить этот кусок городского пространства? Я уверена, что должна посторониться сфера услуг. Хотя бы потому, что мастерская появилась много позже памятника. И ее реклама в данном месте грубо вторгается в атмосферу мемориала. Входит в диссонанс и глубокий конфликт с темой памяти. И почему Первомайский райисполком так неряшливо контролирует свою территорию? Идеологи, у вас что, совсем слух пропал?

Перекресток Коласа и Калинина – земля историческая, тяжким стоном должна отзываться она в наших сердцах. Здесь, на месте городских казарм, немецкие оккупанты в 1941–1943 годах устроили концлагерь для военнопленных «Шталаг 352» (его «головное предприятие» было в Масюковщине). Страданиями людей, их кровью земля здесь на много метров пропитана. Сваленные под открытым небом, как скот, сотни плененных бойцов медленно умирали от истощения, ран и холода. Останки выбрасывались в могильные ямы. Вот какая история у этой братской могилы на углу Калинина и Коласа.

До июня 2009 года это место было обозначено лишь небольшим камнем с памятной надписью, территория вокруг, помнится, заросла кустами – я часто ходила по этой улице мимо. Но потом власти взялись навести строгий порядок. Поставили скульптуру – очень хорошую скульптуру Сергея Логвина. Произведение искусства. Территорию вокруг облагородили. С тех пор место содержится в идеальном порядке. И мемориал работает: воспитывает, тревожит душу. А человеческой душе это необходимо – болеть и тревожиться. В общем, место в городе стало знаковым. Люди приходят сюда в праздники возложить цветы. И, конечно, им хорошо видна вывеска «Ремонт одежды» на доме, который примыкает торцом к мемориалу. Она, в принципе, отовсюду видна. На то и расчет. Что ж, каждый частник мечтал бы о такой выгодной рекламе для своего бизнеса: рвет глаз прохожего аж за триста метров. Но как быть с нашей памятью и болью? Или мы предложим им пожить в условиях свободной конкуренции – кто сильнее, тот и выграше? Но тогда я, знаете ли, боюсь предсказывать результат – память коммерцию точно не обгонит.

Но нет, такого кощунства, такой пошлости допустить нельзя! Уж лучше дикие кусты, чем такая насмешка.

РЭГІЁН

# Як вёска ўражвае гарадскіх жыхароў

*Сям'я Вялічкаў з Гродна з-за каранавіруса перавяла сваіх дзяцей з гарадской у вясковую школу. Эфект атрымаўся нечаканы як для дзяцей, так і для бацькоў.*





### Нечаканая ідэя

Міша і Радаслава Вялічкі перасталі хадзіць у школу яшчэ за два тыдні да канікул, калі эпідэмія толькі пачалася. Іх мама, Вольга Вялічка, кажа: спадзяваліся, што ў школе наладзяць дыстанцыйнае навучанне, але гэтага не адбылося, і паўстала неабходнасць шукаць іншае выйсце.

Разглядаліся розныя варыянты. Бацькі не маюць педагагічнай адукацыі, таму палічылі, што проста займацца з дзецьмі па падручніках недастаткова. Больш за тое, спадарыня Вольга ўпэўнена, што ў жыцці кожны павінен прафесійна займацца сваёй справай.

*«Падчас дзіцячых канікул мы былі ў вёсцы, дзе нам у спадчыну засталася бабуліна хата,* – згадвае Вольга. – *І там у мяне раптам з'явілася думка перавесці дзяцей у вясковую школу».*

Усё было на карысць гэтага рашэння. Бацька дзяцей Сяргей Вялічка працуе дыстанцыйна і можа ўвесь час знаходзіцца тут. Школа добрая, усяго 90 вучняў. Вёска знаходзіцца больш як у ста кіламетрах ад Гродна, у Ваўкавыскім раёне, яна аддалена ат трасы. На працу адтуль людзі ў горад не ездзяць, што зводзіць шанцы падхапіць вірус на нішто. Акрамя таго, у вёсцы акрамя школы ёсць крама, бібліятэка, лазня, праведзены інтэрнэт – адным словам, наладжана сучасная інфраструктура.

### Школа ўразіла

Спадарыня Вольга звярнулася да дырэктара школы. Тая была здзіўлена, але абрадавалася, што дададуцца яшчэ двое вучняў.

*«Школа цалкам беларуская, усе падручнікі на беларускай мове, і выкладанне таксама адбываецца па-беларуску. І гэта першае, што мяне вельмі ўсцешыла, хаця дзеці ў гарадской школе навучаліся на рускай мове,* – кажа спадарыня Вольга. – *Цудоўныя класы абсталяваны вельмі сучасна: камп'ютары, інтэрнэт... У класах па 7–8 вучняў, высокая паспяховасць. Дарэчы, ёсць электронныя дзённікі, і бацькі без праблем могуць адсочваць вынікі дзяцей».*

Уразіла і атмасфера, якая пануе ў школе: на калідорах стаяць тэнісныя сталы, ракеткі з якіх ніхто не забірае і не хавае. Даступны шахматныя дошкі з фігурамі, на перапынках і пасля заняткаў дзеці гуляюць па чарзе. У калідорах няма шуму, як у гарадской школе. А яшчэ ў вясковай школе няма пропускной сістэмы і турнікетаў, дзеці спакойна заходзяць і выходзяць без лішняга кантролю.

Перад фізкультурай хлопчыкі і дзяўчынкі пераапранаюцца ў асобных раздзявальнях.

*«Я заўважыла, што ў гэтай школе ўсе дзеці ведаюць адзін аднаго па імёнах»,* – дадае спадарыня Вольга.

Дзеці сям'і Вялічкаў вельмі прыхільна ставяцца да беларускай мовы, бо бацькі дома размаўляюць на ёй. Першае, што яны зрабілі, – запоўнілі дзённікі і падпісалі сшыткі па-беларуску.

*«Ды і з заняткамі адразу пачало атрымлівацца,* – кажа спадарыня Вольга. – *Першыя дні было больш трасянкі, але дзеці на гэта не зважалі, і ўжо праз два тыдні іх мова цалкам змянілася ў лепшы бок».*

### «Харчаванне – гэта нешта незвычайнае...»

Асабліва спадарыню Вольгу ўразіла харчаванне ў вясковай школе. Яно нагадвае хатняе – меню ўключае нават такія стравы, якія дома не заўсёды здолееш зрабіць. Упершыню за сваё школьнае жыццё дачка сказала, што ела ў школьнай сталоўцы боршч дакладна такі, як варыць яе бабуля.

*«Падыход да харчавання ў школе практычна індывідуальны,* – падкрэслівае спадарыня Вялічка. – *Ежа заўсёды свежая, меню ўключае і мяса, і рыбу, і блінчыкі... Садавіна і гародніна кожны дзень. І, дарэчы, у вясковай школе бацькі за харчаванне не плацяць».*

Раней Міша і Радаслава, прызвычаеныя да хатняй ежы, у школьнай сталоўцы не агорвалі абед, а вось меню ў вясковай школе толькі наганяе ім апетыт.

### У дзяцей шмат новых сяброў

Вольга і Сяргей задаволены: дзеці вельмі лёгка ўвайшлі ў новае асяроддзе.

*«Аказалася, што ў вясковай школе няважна, хто твае бацькі ці які айфон ты маеш,* – заўважае Вольга. – *Я наогул зразумела, што там сістэма скіравана на вынік, а не на тое, каб падаць добрую справаздачу. Мой сын-васьмікласнік упершыню прынёс з урока па працоўным навучанні рэч, зробленую сваімі рукамі. У гарадской школе няма нічога падобнага».*

Са слоў спадарыні Вольгі, летась усе выпускнікі гэтай школы паступілі ў ВНУ на бюджэтныя аддзяленні. У выпадку, калі дзеці не паспяваюць засвойваць матэрыял, іх просяць застацца пасля заняткаў альбо прыйсці за гадзіну да ўрокаў і пазаймацца з настаўнікамі дадаткова. Тут ніхто не наймае рэпетытараў.

### «Аказваецца, можна проста пайсці пагуляць на вуліцу»

На яшчэ адну асаблівасць, важную ў эвалюцыі дзяцей, бацькі звярнулі ўвагу: у горадзе, калі ў дзяцей з'яўлялася вольная хвіліна, насы былі ўсунуты ў гаджэты. І ў вёсцы напачатку было тое самае. Але потым, заўважае Вольга, нешта нібыта перавярнулася ў іх свядомасці.

Міша і Радаслава упершыню ўбачылі, што, аказваецца, можна пайсці пагуляць з сябрамі на вуліцу, пакатацца разам на роварах... А яшчэ ў дачкі раптам з'явіўся цікавы занятак – яна стала маляваць. А сын, гуляючы ў валейбол, умудрыўся ўжо зламаць палец.

*«Сёлета мы ўпершыню ўсе разам пасадзілі свой агарод, і гэта таксама прынесла нам задавальненне,* – усміхаецца Вялічкі. – *Вельмі хочацца, каб дзеці ў жыцці ўсё ўмелі, але каб не былі вымушаны ўсё гэта рабіць».*

### «Не ведаю, як будзем вяртацца назад у горад...»

Адзін раз малодшую, Радаславу, адправілі ў краму за прадуктамі, і яна вярнулася адтуль ледзь не ў стане шоку.

*«Мама, мне не хапіла трох рублёў, а цёця сказала, каб я заўтра данесла, але ўсё мне прадала!»,* – узгадвае спадарыня Вольга словы дзяўчынкі. – *Дачка ніяк не магла зразумець, як у краме могуць даць тавар, а грошы кажуць прынесці заўтра!»*

Раней жанчына думала, што ўсё ведае пра жыццё ў вёсцы, але, як высвятляецца, многае адкрываецца нібы ўпершыню.

*«Аказваецца, тут ёсць свае правілы, свая мараль. І, дарэчы, некаторыя дагэтуль у мяне са здзіўленнем пытаюцца, ці праўда, што мы перавялі сваіх дзяцей з гарадской у вясковую школу,* – кажа Вольга Вялічка. – *Многія нават і не здагадваюцца, што гэта школа ні ў чым не прайграе гарадской. А жыццёвы ўклад зусім не саступае таму, што ў горадзе, а нават шмат у чым мае свае перавагі».*

Задумаўшыся, спадарыня Вольга дадае, што нават не ўяўляе, як дзецям давядзецца вяртацца пасля пандэміі назад у горад.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ПРАВОВОЙ ЛИКБЕЗ

# Одинокая мама

*Женщина, одна воспитывающая детей, заслуживает уважения. Но очень часто таким женщинам присваивают совсем неблагозвучный статус «мать-одиночка». С точки зрения белорусского законодательства это некорректно: родитель, воспитывающий ребенка один, именуется одиноким родителем.*

### Важно

В соответствии с ч.3 подп.1.2 п.1 ст.209 Налогового кодекса Республики Беларусь, одинокими родителями признаются:

родитель, если второй родитель ребенка умер или лишен родительских прав;

усыновитель (удочеритель), не состоящий в браке.

Обращаем внимание: если женщина разведена и одна воспитывает ребенка, то она в соответствии с законодательством Республики Беларусь не относится к категории одиноких матерей.



Одинокая мама – это заботы за двоих, работа за двоих, помощь ребенку и ответственность за двоих. Женщины, самостоятельно воспитывающие детей, нуждаются в государственной поддержке и защите. Сегодня я хочу помочь читателям разобраться в понятиях и пояснить, какая женщина может считаться одинокой матерью.

Согласно законодательству Республики Беларусь, к одиноким матерям относятся:

женщины, не состоящие в браке и имеющие ребенка (детей), в актовой записи о рождении которых запись об отце произведена в установленном порядке по указанию матери;

вдовы, не вступившие в новый брак и имеющие несовершеннолетних детей.

Для подтверждения статуса одинокой матери необходимо иметь определенные документы. В первом случае таким документом будет являться специальная справка о рождении ребенка с указанием основания внесения сведений об отце ребенка (абз.2 п.103 Постановления Совета Министров Республики Беларусь от 14.12.2005 №1454). Во втором случае документами, подтверждающими статус одинокой матери, являются: свидетельство о смерти отца ребенка (детей), отсутствие отметки о заключении брака в документе, удостоверяющем личность (паспорте, виде на жительство, удостоверении беженца).

Что касается государственной поддержки одиноких матерей, то, в соответствии с Законом Республики Беларусь от 29 декабря 2012 года №7-З «О государственных пособиях семьям, воспитывающим детей», одинокая мать имеет право на единовременное пособие при рождении ребенка, а также на пособие по уходу за ребенком в возрасте до 3 лет. Размер указанных пособий привязан к бюджету прожиточного минимума и зависит от количества детей.

Пособие в связи с рождением ребенка назначается и выплачивается на каждого ребенка единовременно при рождении, усыновлении (удочерении) в следующих размерах:

на первого ребенка – в размере десятикратной наибольшей величины бюджета прожиточного минимума, действующего на дату рождения ребенка;

на второго и последующих детей – в размере четырнадцатикратной наибольшей величины бюджета прожиточного минимума, действующего на дату рождения ребенка.

С 1 февраля 2020 года единовременное пособие за рождение первого ребенка составляет 2398,70 рубля, единовременное пособие за рождение второго ребенка (и последующих) – 3358,18 рубля.

Пособие по уходу за ребенком в возрасте до 3 лет назначается и выплачивается на каждого ребенка в следующих размерах:

на первого ребенка – 35 процентов среднемесячной заработной платы работников в стране;

на второго и последующих детей – 40 процентов среднемесячной заработной платы.

С 1 февраля 2020 года пособие по уходу за первым ребенком в возрасте до 3 лет составляет 405 рублей, пособие по уходу за вторым (третьим, четвертым и т.д.) ребенком – 463 рубля.

Кроме того, одинокая мать может обратиться в органы по труду, занятости и соцзащите за получением социального пособия в случае, если среднедушевой доход семьи, определяемый в порядке, установленном Советом Министров Республики Беларусь (далее – среднедушевой доход), по объективным причинам ниже наибольшей величины бюджета прожиточного минимума (БПМ) в среднем на душу населения, утвержденного Министерством труда и социальной защиты, за два последних квартала (далее – критерий нуждаемости).

Размер ежемесячного социального пособия на каждого члена семьи (гражданина) определяется как разница между критерием нуждаемости и среднедушевым доходом семьи (гражданина) по следующей формуле: размер ежемесячного социального пособия на каждого члена семьи = бюджет прожиточного минимума в среднем на душу населения минус среднедушевой доход семьи.

С 1 февраля 2020 года бюджет прожиточного минимума в среднем на душу населения составляет 239,87 рубля.

### Ряд гарантий для одиноких матерей установлен и трудовым законодательством Республики Беларусь

Нанимателю запрещается отказывать женщинам в заключении трудового договора и снижать им заработную плату по мотивам, связанным с беременностью или наличием детей в возрасте до 3 лет, а одиноким матерям – в связи с наличием ребенка в возрасте до 14 лет (ребенка-инвалида – до 18 лет).

***При отказе в заключении трудового договора указанным категориям работников наниматель обязан известить их о мотивах отказа в письменной форме не позднее трех дней после обращения. Отказ в заключении трудового договора может быть обжалован в суде.

Не допускается расторжение трудового договора по инициативе нанимателя:

1) в связи с сокращением численности или штата работников (пункт 1 статьи 42 Трудового кодекса Республики Беларусь) и в случаях, предусмотренных пунктами 3–5 статьи 42 Трудового кодекса Республики Беларусь, – с беременной женщиной, женщиной, имеющей ребенка в возрасте до 3 лет, одиноким родителем, имеющим ребенка в возрасте от 3 до 14 лет;

2) в связи с сокращением численности или штата работников (пункт 1 статьи 42 ТК Республики Беларусь) и в случае, предусмотренном пунктом 5 статьи 42 ТК Республики Беларусь, – с одиноким родителем, имеющим ребенка в возрасте от 3 до 14 лет (ребенка-инвалида – до 18 лет).

Кроме того, налоговым законодательством Республики Беларусь для одиноких матерей предусмотрен налоговый вычет в размере 65 белорусских рублей в месяц на каждого ребенка до 18 лет.

**Лариса СУСЛИКОВА, адвокат Минской областной коллегии адвокатов, 16 лет адвокатской практики.**

*(«Алеся».)*

Народная Воля http://www.nv-online.info
12 МАЯ 2020 г.

АСОБА

# Рыгор СІТНІЦА:
# «Лёгка быць змагаром, калі ні за што не адказваеш»

*Дванаццаць гадоў ён кіраваў Саюзам мастакоў, самай шматлікай творчай арганізацыяй Беларусі, куды ўваходзяць больш за 1000 чалавек. Спачатку быў наместнікам старшыні, а з 2013-га – старшынёй.*
*Сёлета* ***Рыгор СІТНІЦА*** *нарэшце ўздыхнуў з палёгкай, перадаўшы клопатную пасаду іншаму мастаку. І – зранку да вечара – засеў у майстэрні, дзе вольна дыхаецца і плённа працуецца, куды не далятаюць не тое што вірусы, але і гарадскія шумы. Там, у зацішку, мы і сустрэліся, каб пагутарыць пра жыццё-быццё.*

**– Рыгор, не шкадуеш, што столькі гадоў жыцця аддаў на грамадскія справы?**

– Часу на ўсё шкада, не толькі на грамадскія справы. Але ніхто мяне ў кіраўніцтва саюза на лейцах не цягнуў, я сам пайшоў. На апошніх выбарах я атрымаў 90 працэнтаў падтрымкі. Як можна было не пагадзіцца?

Хоць, прызнацца, кіраваць – гэта не маё прызванне. Але рабіў сваю працу, здаецца, даволі эфектыўна. Самае галоўнае – мы пазбеглі расколу, захавалі арганізацыю, яна засталася незалежнай і беларускай. Мы наладжвалі афіцыйныя выстаўкі ў Палацы мастацтва, якія раней цяжка было ўявіць: прысвечаныя юбілею Беларускай Народнай Рэспублікі, памяці расстраляных у Курапатах…

**– Чаму вам дазвалялася тое, што забаранялася пры ранейшым кіраўніцтве СМ?**

– Проста мы заслужылі аўтарытэт, у тым ліку ва ўлад. Не прыніжаючыся, не кланяючыся. І ніхто па вялікім рахунку ў нашу дзейнасць не ўмешваўся. Нас не дужа хвалілі, але і не дзяўблі. Што давала магчымасць ажыццяўляць задуманыя праекты. Скажам, тут я магу трохі паганарыцца. Помнік войту каля сталічнай ратушы не стаяў бы сёння, калі б я не паклаў на гэта тры гады. І помнік Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу і Станіславу Манюшку на той жа плошчы Свабоды не з’явіўся б, калі б я з тагачасным наместнікам старшыні Мінгарвыканкама спадаром Карпенкам не вырашыў справу. А прыгадай помнікі Гедыміну ў Лідзе, Альгерду ў Віцебску, Льву Сапегу ў Слоніме – іх рабілі нашы мастакі, яны адліваліся на нашым Мастацкім камбінаце. Мы павесілі мемарыяльную дошку Рыгору Барадуліну, неўзабаве з’явіцца шыкоўная дошка на доме Васіля Быкава – яна ўжо зацверджана гарвыканкамам і адліта.

**– У Саюзе мастакоў больш за тысячу сяброў, і, вядома ж, усім дагадзіць немагчыма. Як ты рэагаваў, калі калегі (Алесь Марачкін, Мікола Бушчык, Генадзь Драздоў) папракалі цябе ў цэнзарскіх замашках, калі з нейкіх выставак здымаліся іхнія творы?**

– Ніякай цэнзуры ў Саюзе мастакоў пры мне не было! Заўсёды спрэчныя пытанні, калі яны ўзнікалі, вырашаліся на радзе, я ніколі не браў на сябе адказнасць. Сто сяброў Рады прымалі рашэнне, і кіраўніцтва абавязана было яго выконваць. А выпадкі здараліся розныя. Аднойчы мы адкрылі выставу суполкі «Пагоня» – пад воплескі, урачыста. Але як толькі перайшлі ў другую залу, нейкія дзве кабеты на галоўным стэндзе павесілі партрэты зніклых палітыкаў. Мала таго, прыбег нейкі дзядзька і замахнуўся кавенькай на дырэктара палаца Аляксандра Зінкевіча, які тыя партрэты здымаў. Я быў сведкам, не хлушу. Што гэта – мастацкая акцыя? Гэта элементарная правакацыя. Каго вы прыйшлі агітаваць у Палац мастацтва? Хто там не ведае пра Захаранку і Ганчара? Калі вы такія смелыя, ідзіце з партрэтамі на плошчу і там агітуйце.

**– А чаму мастакоў нельга агітаваць? Хіба яны не гэткія ж грамадзяне Беларусі, як і ўсе астатнія?**

– Агітаваць можна каго заўгодна. Але ў тым канкрэтным выпадку партрэты павесілі людзі, якія ні за што не адказваюць. Лёгка быць змагаром, калі ні за што не адказваеш. Павесіў і – задаволены – сфатаграфаваўся на фоне. А пасля ў інтэрнэце – гвалт: цэнзура!.. Гэта каму мы робім добра? Гэта мы, беларусы, так сабе дапамагаем? Тут дарэчы будзе прыгадаць яшчэ адзін выпадак. Правялі мы конкурс на помнік Дуніну-Марцінкевічу і Манюшку, ужо ён вылеплены быў, але яшчэ не адліты. І раптам з’яўляецца калектыўны ліст, падпісаны беларускімі навукоўцамі. Нават Адам Восіпавіч Мальдзіс яго падпісаў, відаць, не ўнікнуўшы ў сутнасць справы. У лісце гаварылася, што нельга садзіць на адной лаўцы Манюшку і Дуніна-Марцінкевіча, бо яны не сябравалі, адзін у другога грошы пазычыў і не аддаў, ды і лавак такіх у Мінску ніколі не было (а там ліра пасярэдзіне – як сімвал мастацтва). Маўляў, кожны з іх заслугоўвае асобнага помніка… І ўсё. І на два гады справа тармазнулася. Ледзь я яе потым з месца зрушыў, успомніўшы, што ў свой час была пастанова Савета міністраў аб ушанаванні памяці Дуніна-Марцінкевіча, і яе трэба выканаць.

**– Помнік, па-мойму, выдатны, за што дзякуй скульптарам Льву і Сяргею Гумілеўскім! А яшчэ ён надзвычай удала прывязаны да месца – стоячы каля помніка, можна амаль усю біяграфію Манюшкі расказаць і паказаць: тут ён жыў, там вучыўся, тут маліўся, а там оперы ставіў… Для любога твора мастацтва важны кантэкст, у які яго змяшчаюць. А дзе твае карціны вісяць у ідэальных умовах?**

– У Нацыянальным мастацкім музеі вісіць адна графічная праца. Мне гэта грэе душу. А ўсё астатняе набытае музеямі – пераважна ў запасніках, чакае свайго часу. Што да найлепшай экспазіцыі маіх твораў, то адбылася яна два гады таму ў Пекіне. З дзясятак маіх твораў набыў дыпламат і калекцыянер Франц Салес Грыль з Мюнхена. У яго больш за 4000 твораў сусветнай графікі – арыгіналы Шагала, Далі, Пікаса, Вазарэлі… З беларусаў ён вылучыў двух – мяне і Валерыя Славука.

**– Сучаснае мастацтва ўсё далей адыходзіць ад рэальнасці, у галерэях ладзяцца сумніўныя перформансы, што-кольвечы расшалопаць у якіх дадзена далёка не кожнаму. Як ты да іх ставішся?**

– Я спрабую зразумець розныя стылі і спосабы выказвання. Але, наглядзеўшыся рознага, прыдумаў для сябе такі іранічны лозунг: запішыце мяне ў рэтраграды! Сённяшні мастацкі дыскурс дазваляе любому няўмеку заявіць, што ён мастак. Няважна, што ён намалюе. Ды і маляваць неабавязкова. Можна, скажам, прыбіць сябе за інтымную частку цела да бруку на Краснай плошчы ў Маскве, як зрабіў адзін творца. Я аднойчы паспрабаваў дыскутаваць з адным канцэптуалістам, дык ён мне ледзь вочы не выдраў: «В искусстве нет и не может быть морали!» Як жа так? Напрыклад, я прыйшоў у галерэю і плюнуў на сцяну. Што гэта? Хамскі ўчынак. Але калі я напішу старонку-дзве малаўцямнага тэксту з цытатамі з Ніцшэ і Фрэйда – гэта адразу стане «канцэптуальным мастацтвам»... Неяк я на тэлебачанні наглядна паказаў, як яно робіцца. Узяў газету, пашкуматаў яе, паставіў стаўбурком і назваў – «Інфармацыйны выбух». Толькі, кажу, трэба яшчэ «канцэпцыю» напісаць.

**– Як тут не згадаць маладога мастака, які летась стаў голым пасярод Нацыянальнага цэнтра сучаснага мастацтва, павесіўшы сабе на далікатным месцы шыльдачку «Міністэрства культуры».**

– Між іншым, гэта сын нашага вядомага жывапісца Аляксея Кузьміча. І ў розных рэйтынгах яго «твор» быў названы «мастацкай з’явай года»! Мне вельмі падабаецца, як па-славацку гучыць мастацтва – *умецтва.* Мастак усё ж павінен умець рукамі зрабіць тое, што ніхто не зможа. А калі не ўмее, то займаецца чорт ведае чым. Ёсць у Германіі такі Гюнтэр фон Хагенс, ён працаваў паталагаанатамам. Пабачыў, што трупы часам нікім не запатрабаваны, і пачаў рабіць з іх… скульптуры. Цяпер ён сусветная зорка мастацтва, ездзіць з выстаўкамі па ўсім свеце... Свабода творчасці, усе шлюзы адкрыты. Думаю, усё гэта яшчэ адгукнецца чалавецтву. Ды ўжо адгукаецца – COVID-19 аднекуль жа ўзяўся. «Бог не спіць!» – як напісаў наш выдатны паэт Уладзімір Някляеў.

**– А ты сам як засцерагаешся ад каранавіруса?**

– Ключы і тэлефон апрацоўваю антысептыкам, маску на вуліцы нашу, стараюся ні сабе, ні людзям не нарабіць клопату. У майстэрні мне ёсць чым заняцца, я не нуджуся – малюю, пішу, чытаю…

**– У мастака Язэпа Драздовіча літаратурная творчасць выглядае як дадатак. У пісьменніка Уладзіміра Караткевіча такім дадаткам выглядаюць малюнкі, хоць іх і шмат – больш за 600. А вось Сітніца-паэт, як на маю думку, не саступае Сітніцу-мастаку. Калі б на неабжыты востраў табе можна было ўзяць ці пэндзаль, ці асадку з нататнікам, што б ты ўзяў?**

– Не дай Бог апынуцца перад гэткім выбарам! Паэзія і графіка для мяне паралельныя працэсы.

**– Твая кніга паэзіі «Ток» летась была намінавана на Нацыянальную прэмію па літаратуры. Шмат хто быў перакананы, што ты яе і атрымаеш…**

– У гэтым была перакананая і большасць сяброў таго журы, якое гэтую прэмію прысуджала, яны мне самі пра гэта гаварылі (*усміхаецца*). Але мяне непрысуджэнне не пакрыўдзіла. Паэт, які атрымаў прэмію, далёка не горшы варыянт. Ён шмат гадоў адпрацаваў у нашай літаратуры…

**– Назаву імя паэта – Мікола Маляўка, аўтар выдатнай кніжкі «Едуць маразы». Праўда, выйшла яна ў далёкім 1966 годзе.**

– Вось і прэмія яму – на здароўе! А ў мяне ўжо гатова другая кніга. На мае паэтычныя выступленні збіраюцца вялікія залы, двойчы ў Белдзяржфілармоніі былі аншлагі па 800 чалавек…

**– Гэткія музычна-літаратурныя спектаклі?**

– Так, я сам прыдумваю сцэнарый, сам музыку падбіраю. У

**– На тваіх карцінах – вясковыя хаты, кроквы, дзверы, платы, бульба цвіце... А хату ў вёсцы набыў?**

– Не, я не хачу траціць на гэта свой час. Хоць мне і прапаноўвалі за капейкі, а адзін добры чалавек нават задарма аддаваў – бяры, толькі гаспадарнічай. Я адмовіўся, бо не хачу змяняць звыклы лад жыцця. Ды і легкавік патрэбны, а я не аўтамабіліст. Прынцыпова.

**– А ці бываеш у сваіх родных Курыцічах на Петрыкаўшчыне?**

– Зрэдку. Курыцічы выміраюць, як і многія вёскі. Калі я вучыўся ў школе, былі два паралельныя класы, 50 аднакласнікаў, а цяпер чалавек 12 у класе. Я нездарма працую цяпер над вялікай графічнай серыяй «Настальгія». На ёй Беларусь, якая знікае на нашых вачах. Яшчэ трохі, і ўсе дамы апрануцца ў сайдынг, накрыюцца металадахоўкай. Мае пляменнікі зрабілі з братавай хаты ў Курыцічах суперсучаснае жытло. Яны ўжо не бачылі ні накрытай чаротам пуні, ні кроснаў.

**– Твая жонка Іна – і разумніца, і прыгажуня. Але ў тваім альбоме «Простыя рэчы» толькі адзін яе партрэт...**

– Затое які! «Кветкі для Іны» я напісаў яшчэ студэнтам, з яго і пачаўся як мастак. Так ужо хацеў зрабіць прынашэнне ад сэрца для каханай!

**– І жонцы аднаго партрэта хапіла?**

– Хапіла. Яшчэ ж і вершы ёсць, ёй прысвечаныя.

**– У Саюз мастакоў ты сыходзіў з выкладчыцкай пасады ў мастацкім каледжы. Не ўзнікае жаданне зноў павыкладаць?**

– Не ўзнікае. Жыву на пенсію, ну і, бывае, карціну хто купіць. Я не гультай, штодзень працую, хоць зарабіць на жыццё мастацтвам у Беларусі праблематычна. Праўда, у мяне мінімальныя запатрабаванні. Калі б канчаткова нэндза адолела, то знайшоў бы магчымасць падзарабіць. Але пасля 12 гадоў службы ў Саюзе мастакоў, прызнаюся, з такой асалодай успрымаецца свабода! Я яе проста смакую і ніяк нарадавацца не магу.

**Міхась СКОБЛА.**

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО

## На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА «Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў» Васіль ВАЛАСЮК

### Рамонт зацягнулі на два месяцы

*Зламалася гульнявая прыстаўка, аддаў тэхніку ў гарантыйную майстэрню. Рамантавалі амаль два месяцы, што я лічу ненармальнай сітуацыяй. Ці можна вярнуць тавар у магазін?*

**Андрэй ЛАЗОЎСКІ, Гомель.**

– Звярніцеся з прэтэнзіяй у магазін, дзе набывалі тэхніку, і вам вернуць грошы.

### Не спадабалася зубная шчотка

*Набыў у магазіне зубную шчотку, але дома заўважыў, што яна не вельмі мяккая. Таварам не карыстаўся. Ці можна вярнуць яго ў магазін?*

**Аляксандр ПЯСЕЦКІ, г.Шчучын.**

– Зубная шчотка – гэта тавар, які вярнуць нельга, незалежна ад таго, карысталіся вы ім альбо не.

### Драпіны на крэсле

*Купіла чатыры цудоўныя драўляныя крэслы. Калі тавар прывезлі, то ён знаходзіўся ва ўпакоўцы, і я не адразу заўважыла, што на адным з крэслаў шмат драпін. Ці можна вярнуць тавар у магазін альбо замяніць яго на якасны?*

**Таццяна КУЛЕШ, г.Валожын.**

– Можна. Хутчэй за ўсё, гэта вытворчы недахоп. Хаця на будучыню: калі вам прывозяць тавар, заўсёды ўважліва аглядайце яго.

### Коўдра мае непрыемны пах

*Набыла коўдру, але праз некалькі дзён высветлілася, што яна мае непрыемны пах. Тыдзень прайшоў, а пах не знікае. Што рабіць?*

**Святлана ПАЛЬЧЭЎСКАЯ, Мінск.**

– Зрабіце экспертызу тавару і прад’явіце прадаўцу прэтэнзію з патрабаваннем вярнуць грошы.

### Купіла электрамясарубку з дэфектам

*Купіла электрамясарубку, пры пакупцы тэхніка працавала як быццам добра. Праз месяц высветліўся недахоп – мясарубка губляе магутнасць. Як паступіць у такой сітуацыі?*

**Марыя ГУЛЕВІЧ, г.Орша.**

– Заявіце пісьмовую прэтэнзію на адрас магазіна аб замене тавару альбо вяртанні грошай. Таксама можаце звярнуцца ў сэрвісны цэнтр, каб там ліквідавалі недахоп.

### Зрабіць экспертызу прадуктаў

*Калі спрабую некаторыя сасіскі альбо кілбасы, то мне не заўсёды верыцца, што тавар адпавядае тым характарыстыкам па ўтрыманні мяса, што заяўлены. Ці магу я правесці незалежную экспертызу гэтага тавару?*

**Сяргей БОГУШ, Мінск.**

– У сталіцы гэта можна зрабіць у Рэспубліканскім цэнтры гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя.

НУ І НУ!

## Такога яшчэ не было

*Польскія мытнікі на пагранічным пераходзе «Баброўнікі», які мяжуе з пераходам «Бераставіца» ў Гродзенскай вобласці, канфіскавалі кантрабанду беларускіх цыгарэт на суму 2,6 мільёна долараў.*

Кантрабанда, паводле паведамленняў польскіх СМІ, знаходзілася ў грузавіку замест паліўных гранул, якія былі пазначаны ў суправаджальных дакументах.

Паведамляецца, што пагранічнікі і мытнікі некалькі гадзін выгружалі кантрабандны тавар. Усяго было налічана 875 тысяч пачак цыгарэт на суму 2,6 мільёна долараў. Падкрэсліваецца, што на дадзеным пагранічным пераходзе гэта рэкордная партыя кантрабанды.

Кіроўца грузавіка грамадзянін Беларусі быў арыштаваны да суда на тры месяцы. Папярэдне яму пагражае да 10 гадоў пазбаўлення волі.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

З НАГОДЫ



Алесь СІВЫ

# Дагуляліся!

Канадскі абаронца мінскага «Дынама» Марк Граньяні, у якога 30 красавіка закончыўся кантракт з «Зубрамі», распавёў, што клуб не плаціў хакеістам заробкі ўжо тры месяцы.

*«Апошні раз мы атрымлівалі грошы ў студзені*, – шчыра прызнаўся Граньяні. – *Нам проста сказалі, што ў іх больш няма фінансавання».*

Відаць, для «Дынама» і насамрэч закончыліся слаўныя часы, калі грошы цяклі ў клуб ракой, а заробкі ігракоў даходзілі да некалькіх дзясяткаў тысяч долараў у месяц. Багатыя спонсары, якія, відаць, у добраахвотна-прымусовым парадку фінансавалі гэты хакейны праект, па сутнасці, выкідвалі грошы на вецер. Бо любы бізнес-праект як мінімум прадугледжвае калі не прыбытковасць, то нястратнасць.

Былі сезоны, калі бюджэт «Дынама» дасягаў 20 мільёнаў долараў у месяц, а вынік аказваўся практычна нулявы. Але ў апошнія гады фінансаванне зменшылася, а значыць, і ўзмацніцца добрымі замежнымі хакеістамі не ўдавалася.

Стаўка на беларускіх ігракоў прывяла да таго, што каманда ў апошнім сезоне апынулася на дне турнірнай табліцы, а асноўны спонсар – «Беларуськалій» – прыпыніў падтрымку клуба.

Што адбываецца зараз? Многія ігракі пачалі разбягацца па іншых клубах КХЛ, дзе плацяць спраўна. Перспектывы таксама ў тумане, бо прынцып «раніцай грошы – вечарам крэслы» ўжо не працуе. Грошы «Дынама» брала, а «крэслаў» ніхто так і не дачакаўся. І сёння сітуацыя дайшла да таго, што не толькі ў клуба ёсць запазычанасці перад хакеістамі, а нават фан-дом «Зуброў», які знаходзіцца ў сталічным гандлёвым цэнтры, закрыўся з-за даўгоў перад арэндадаўцам.

Яшчэ на пачатку гэтага года генеральны дырэктар «Дынама» Дзмітрый Баскаў звярнуўся да камерцыйных структур з заявай, што *«клуб адкрыты для інвестыцыйных прапаноў»*.

*«Гатовы прадаставіць унікальныя магчымасці для прасоўвання вашых брэндаў на рынках Беларусі і краін, якія ўваходзяць у Кантынентальную хакейную лігу*, – завабліваў Баскаў пернікамі бізнесменаў. – *Упэўнены, што сумесна нам па сілах стварыць клуб, якім будзе ганарыцца ўся Беларусь».*

Пакуль жадаючых атрымаць такое «шчасце» асабліва не знаходзіцца, а некаторыя і наогул прагназуюць, што клуб можа спыніць выступленне ў Кантынентальнай хакейнай лізе.

*«Усё ідзе да таго, што дынамаўцы наогул могуць пакінуць КХЛ*, – мяркуе вядомы расійскі спартыўны журналіст Аляксей Шаўчэнка. – *Вядома, каманда не спыніць існаванне, не паўторыць лёс «Медвешчака» ці «Слована», але з лігі можа выйсці.*

*Па-першае, ёсць абавязкі па заробках за мінулы сезон, а з імі не дапусцяць да ўдзелу ў КХЛ. Па-другое, поўная нявызначанасць з будучыняй: асноўны спонсар са студзеня не дапамагае, а іншых прадпрыемстваў, якія гатовы марнаваць грошы, няма.*

*Хаця, напэўна, такія прадпрыемствы існуюць, але для гэтага патрэбна жаданне беларускага кіраўніка, а ён ужо неаднаразова даваў зразумець, што яму не падабаецца цяперашняя сітуацыя.*

*Уся сістэма КХЛ і клубаў пабудавана па адным прынцыпе: ёсць спонсар, які дае пэўную колькасць грошай, а клуб ўсе іх траціць. Так што адзіная надзея для мінскага «Дынама» – гэта калі прэзідэнт краіны зноў загадае камусьці ўтрымліваць клуб. Калі падобных слоў не будзе сказана да ліпеня, то можна адмаўляцца ад удзелу ў КХЛ».*

Такім чынам, сёння для «Зуброў» стаіць пытанне выжывання, але яны самі скочылі ў тую яму, дзе знаходзяцца зараз. Сам клуб наўрад ці выкараскаецца адтуль, а таму далейшае развіццё падзей непрадказальнае. Як кажуць: дагуляліся!

ВНЕ ИГРЫ

# Состоится ли чемпионат мира по хоккею в Минске и Риге?

*Швейцария отказалась проводить это первенство в следующем году.*

Напомним, что чемпионат мира по хоккею-2020 должен был пройти с 8 по 24 мая в Швейцарии, но еще в марте стало известно, что Международная федерация хоккея отменила турнир из-за пандемии коронавируса.

Существовала вероятность, что первенство сдвинут на год вперед, однако этого не случится по той простой причине, что Швейцарская федерация хоккея отказалась от проведения домашнего турнира в 2021 году и запустила процесс возвращения билетов болельщикам, которые поторопились их приобрести заранее.

Так что Беларусь и Латвия, которые планируют проводить хоккейное первенство в следующем году, могут вздохнуть спокойно: в их планах ничего не меняется, если, конечно, ситуацию не изменят иные обстоятельства.

В то же время, по словам президента Международной федерации хоккея **Рене Фазела**, их организация обсуждает перенос сроков проведения турнира-2021.

*«Следующий чемпионат мира, как и планировалось, пройдет в Беларуси и Латвии, но мы обсуждаем перенос сроков проведения на две недели вперед*, – заявил Рене Фазел. – *Хотим начать не 7 мая, а 21 мая».*

Кстати, в СМИ уже появилась информация, что следующий чемпионат мира в Минске и Риге, скорее всего, пройдет без игроков НХЛ.

В связи с пандемией коронавируса сильнейшая лига планеты планирует начать новый сезон в декабре – на два месяца позже обычного. Соответственно сдвинется и окончание регулярного чемпионата, который финиширует ориентировочно не раньше июня, что не позволит хоккеистам клубов НХЛ помочь своим сборным на первенстве мира.

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**




ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

## Финальный турнир олимпийской квалификации с участием сборной Беларуси перенесен с 2020-го на 2021 год. Такое решение принял совет Международной федерации хоккея

Сборная Беларуси за единственную путевку на Игры-2022 в Пекине поспорит с командами Словакии, Австрии и Польши 26–29 августа 2021 года в Братиславе.

*«Нам повезло, что у нас еще есть время провести эти турниры. Перенос квалификации на август 2021 года позволит командам вывести на лед своих лучших игроков»*, – заявил президент федерации Рене Фазел.

Перенос турниров должен быть утвержден исполкомом Международного олимпийского комитета. Олимпийскую квалификацию решено перенести из-за непростой обстановки в мире, связанной с пандемией коронавирусной инфекции.

ФУТБОЛ

# БАТЭ выходзіць у лідары

*Адбыліся матчы 8-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: «Слуцк» – «Энергетык-БДУ» – 1:2, «Гарадзея» – «Мінск» – 1:1, «Славія» (Мазыр) – «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) – 0:0, «Нёман» (Гродна) – «Рух» (Брэст) – 2:4, «Іслач» (Мінскі раён) – «Белшына» (Бабруйск) – 2:1, «Віцебск» – «Шахцёр» (Салігорск) – 0:0, «Смалявічы» – БАТЭ (Барысаў) – 3:5, «Дынама» (Брэст) – «Дынама» (Мінск) – 2:1.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| БАТЭ | 8 | 5 | 1 | 2 | 16–9 | 16 |
| Слуцк | 8 | 5 | 1 | 2 | 15–11 | 16 |
| Іслач | 8 | 5 | 0 | 3 | 11–12 | 15 |
| Тарпеда-БелАЗ | 8 | 4 | 3 | 1 | 9–4 | 15 |
| Энергетык-БДУ | 8 | 5 | 0 | 3 | 10–8 | 15 |
| Дынама (Бр) | 8 | 4 | 1 | 3 | 11–8 | 13 |
| Шахцёр | 8 | 3 | 3 | 2 | 9–3 | 12 |
| Рух | 8 | 3 | 3 | 2 | 7–5 | 12 |
| Славія | 8 | 3 | 2 | 3 | 10–12 | 11 |
| Віцебск | 8 | 3 | 2 | 3 | 6–8 | 11 |
| Гарадзея | 8 | 3 | 2 | 3 | 5–7 | 11 |
| Мінск | 8 | 3 | 1 | 4 | 12–16 | 10 |
| Дынама (Мн) | 8 | 3 | 0 | 5 | 11–10 | 9 |
| Нёман | 8 | 2 | 2 | 4 | 9–11 | 8 |
| Смалявічы | 8 | 0 | 3 | 5 | 6–14 | 3 |
| Белшына | 8 | 0 | 2 | 6 | 6–15 | 2 |

ШАШКІ

## Увага, бліц-конкурс!

У якасці заданняў бліц-конкурсу свае пазіцыі прапануюць **Анатоль Баланюк** з Украіны (№1 і №2) і мінчанін **Мікалай Ляшкевіч** (№№3–7). Белыя пачынаюць і выйграюць.

№1 **Белыя**: a1, g1, e3, g3, a5, c5, b6 (7).
**Чорныя**: b2, a3, c3, f6, g7, b8 (6).
№2 **Белыя**: a1, g1, b2, d4, c5, e7 (6).
**Чорныя**: f2, a3, e3, g3, f2, f4, h6, g7 (8).
№3 **Белыя**: a1, c1, a3, e3, c5, b6, d6, c7, e7 (9).
**Чорныя**: g3, h4, a5, g5, f6, a7, g7, b8, d8 (9).
№4 **Белыя**: d2, h2, c3, b4, d4, c5, d6, c7 (8).
**Чорныя**: f2, g3, f4, h4, a5, e5, g5, f6, g7, b8 (10).



№5 **Белыя**: a1, e1, g1, f2, g5, b6, d6, f6, g7 (9).
**Чорныя**: d2, c3, g3, b4, d4, h4, d8 (7).
№6 **Белыя**: a1, e1, g1, d2, f2, g3, d4, e5, d6 (9).
**Чорныя**: b2, c3, b4, g5, b6, f6, g7, b8, f8 (9).
№7 **Белыя**: a1, e1, d2, f2, e5, g5, f6, g7 (8).
**Чорныя**: b2, c3, g3, b4, d4, h4, b6, e7, d8, h8 (10) *(гл.дыяграму).*

## Развітанне з чэмпіёнам

З жалем паведамляем, што не стала першага чэмпіёна свету ў жанры «задачы-64» і неаднаразовага чэмпіёна Беларусі **Аляксандра Шурпіна**. Ён быў актыўным удзельнікам не толькі нашай рубрыкі, але і шашачных аддзелаў іншых выданняў. Знаёмім з задачай-100, якую ён паспеў даслаць у рэдакцыю, але яна не была надрукавана *(гл.дыяграму ўнізе).*

№7 **Белыя**: простыя 11, 14, 24, 28, 29, 38, дамкі 2, 16, 19, 20, 32, 42, 45, 48 (14).
**Чорныя**: простыя 18, 26, 36, дамкі 3, 7, 35 (6).
16-21(27**А**), 21, 31, 2-13, 13, 8, 18 (9). **А**(6), 11, 44, 32-37, 21, 8, 15, 41, 47 (36).



## Праблемы-100

Пазіцыі №№8–10 прапануе наш магілёўскі аўтар **Дзмітрый Камчыцкі**.

№8 **Белыя**: простыя 11, 17, 20, 24, 35, 37, 44, дамкі 22, 41 (9).
**Чорныя**: простыя 6, 10, 29, 32, 33, 45, дамкі 28, 46 (8).
14(30a), 24, 47, 15, 47, 50 x. a(9), 27, 22 x.
№9 **Белыя**: простыя 13, 16, 17, 22, 43, 48, дамка 2 (7).
**Чорныя**: простыя 8, 23, 29, 32, 33, 37, 41 (7).
42, 18, 38(19**А**), 48, 46 x. **А**(42), 7, 46 x.
№9 **Белыя**: простыя 11, 17, 21, 24, 28, 34, 38, 40, 43, 49 (10).
**Чорныя**: простыя 2, 6, 9, 14, 22, 35, 41, 44, дамка 45 (9)
7, 12, 20, 39, 16, 7(18), 40, 1, 4(30), 22(35/34), 44 x.

Наступныя праблемы даслаў міжнародны майстар **Іван Івацка** з украінскага горада Вінніца.

№11 **Белыя**: 15, 26, 30, 32, 33, 38, 39, 44, 48, 49 (10).
**Чорныя**: 7, 8, 11, 17, 19, 20, 24, 29, 35, 40 (10).
49-43, 34, 29, 2(16), 37, 49(17-21, 7-11, 2), 11, 37-32 x.
№12 **Белыя**: 20, 24, 34, 39, 40, 41, 42, 44, 47, 50 (10).
**Чорныя**: 3, 7, 12, 13, 15, 31, 32, 35, 36, 45 (10).
42-37, 27, 33, 33, 33-29, 29, 40, 17(12, 12), 22 x.
№13 **Белыя**: 11, 24, 26, 30, 32, 33, 37, 38, 39, 43, 44 (11).
**Чорныя**: 2, 6, 9, 12, 17, 18, 21, 22, 25, 35, 40 (11).
29, 28, 4, 8, 26(40), 34 x.
№14 **Белыя**: 11, 14, 17, 18, 23, 35, 38, 40, 42, 44, 47, 50 (12).
**Чорныя**: 3, 6, 9, 13, 20, 25, 29, 31, 33, 37, 39, 45 (12).
18-12, 45, 43, 30, 40, 8, 3, 9, 6 x.
№15 **Белыя**: 10, 21, 22, 23, 28, 30, 32, 34, 39, 44, 48, 50 (12).
**Чорныя**: 5, 7, 8, 14, 16, 18, 24, 25, 35, 45 (10).
40, 23, 4, 1, 40, 44(10), 39, 39 x.

## Супаставім рашэнні

«Народная Воля» за 7 красавіка 2020 года.

**№2** – de7(f6**A**), d8(b2/d2**B**),f6/g5, a1/c1 x. **A**(g5), b2/a1 x. **B**(b4, a3, b2), c3 x.
**№3** – f8(g5**a**), e3,c7, h6(c3), c1 x. **a**(c1), h6, h:c1:g1 x.
**№4** – b8(c1), a3(h6), c1(b4), g5(h4), g3, e3, a3 x.
**№5** – b8(b4**A**), h6, e3, g7 x. **A**(d4), h6, g7, h8 x.
**№6** – e7, b4(c5), b4, c1 x.
**№7** – g3(f2:h4), e5, a3, b4, c1, c7(e5), d8(d6), g5(d4), h6(c3), g7(ab2, d2), c3, e7 x.
**№8** – 2, 13, g3, 48 x.
**№9** – 19, 39, 8, 2, 28, 20, 5 x.

Дакладныя адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка), **Юрый Голікаў** (Цвер, Расія.), **Эдуард Дамброўскі, Віталь Варушыла, Іван Наўроцкі** (Мінск), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Ігар Ананіч, Павел Каролік** (Гродна), **Уладзімір Панько** (Камянец), **Сяргей Бурко** (Орша), **Анатолій Чумакоў** (Светлагорск), **Уладзімір Барысёнак** (Віцебская вобл.). Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць!

Свае лісты дасылайце на адрас:
***220030, Мінск, вул. Энгельса, 34а, «Шашкі»***
або на электронны адрас рэдакцыі: ***shulga.checkers@gmail.com***.

**Віктар ШУЛЬГА.**

ВЕРДИКТ

# Последний приговор по «делу медиков»

*Главе «Белмедтехники» – 6,5 года колонии, конфисковано более 472 тысяч долларов и 75 тысяч евро.*

Вчера Минский городской суд огласил приговор по делу, которое слушалось в закрытом режиме. Фигурантами его были шесть человек, среди них директор предприятия «Белмедтехника» **Александр Шарак.**

Этот процесс проходил за закрытыми дверями четыре месяца. Как выяснилось во время предварительного заседания, куда пустили журналистов, двое фигурантов – директор предприятия «Белмедтехника» **Александр Шарак** и бывший директор «Медисферы» **Борис Ранчинский** – заключили досудебное соглашение. Еще трое фигурантов – **Евгений Волков**, **Илья Карпович**, **Александр Юсов** – это представители бизнеса, которые, по версии следствия, давали взятки. Вместе с директором предприятия «Белмедтехника» за получение взяток судили начальника отдела реализации «Белмедтехники» **Кирилла Кастрицкого** (ч.1 и ч.2 ст.430 УК). Самому Шараку предъявлено обвинение по ч.3 ст.430 УК (получение взятки в особо крупном размере).

Сегодня Минский городской суд огласил приговор по последнему «делу медиков». В связи с пандемией в суде новые правила: теперь всем на входе измеряют температуру, дежурный милиционер предлагает обработать руки антисептиком. Большинство посетителей в масках, на некоторых – резиновые перчатки.

В масках также все конвоиры, секретарь и один из обвиняемых – Илья Карпович. Он и Александр Шарак находятся за решеткой, остальные – под домашним арестом.

Оглашение происходило в закрытом режиме, поэтому не известно, какие взятки были получены и какие суммы передавали представители бизнеса. Подробности дела знают только участники процесса.

**Александра Шарака** приговорили к 6,5 года в колонии в условиях усиленного режима. У него будет изъято в доход государства 472 тысячи долларов и 75 тысяч евро.

**Кирилла Кастрицкого** – к 3 годам лишения свободы (до приговора он был под домашним арестом). **Илья Карпович** получил 6 лет. **Борис Ранчинский** приговорен к 2 годам ограничения свободы без направления в колонию, **Евгений Волков** – 2,5 года ограничения свободы, **Александр Юсов** – два года ограничения.

Напомним: в июне 2018 года председатель КГБ Валерий Вакульчик сообщил о массовых задержаниях по громкому «делу медиков». Вот что он тогда рассказывал про директора предприятия «Белмедтехника» Александра Шарака: *«К слову, при обыске в его гараже в тайнике обнаружено более 620 тыс. долларов в эквиваленте».*

Еще во время предварительного заседания 45-летний Александр Шарак говорил: считает досудебное соглашение о сотрудничестве выполненным.

– Вину признаю и раскаиваюсь, – заявлял Шарак.

В суде прозвучало, что в августе 2018 года он обратился к генеральному прокурору с просьбой о досудебном соглашении. И оно было заключено на определенных условиях: Шарак должен правдиво и в полном объеме рассказать о совершенном преступлении, изобличить других участников, сообщить об имуществе и уплатить преступный доход.

В материалах уголовного дела указано, что соглашение Шараком и Ранчинским выполнено в полном объеме и к ним могут быть применены ст.69 УК (назначение наказания при наличии смягчающих обстоятельств) и ст.66 УК (назначение наказания за преступление, совершенное в соучастии). В этом случае срок или размер наказания не может превышать половины максимального срока или размера избранного судом вида основного наказания. За получение взятки в особо крупном размере Александру Шараку грозило от 5 до 15 лет лишения свободы, при применении ст.69 УК – не более чем семь с половиной лет.

Почему дело слушалось в закрытом режиме? Судья **Елена Шилько** отмечала «особую сложность дела» и огласила:

– В материалах уголовного дела имеются документы, содержащие информацию ограниченного распространения и информацию, составляющую коммерческую тайну. В связи с чем судебное разбирательство уголовного дела необходимо назначить в закрытом судебном заседании.

Приговор не вступил в законную силу и может быть обжалован.

**Катерина БОРИСЕВИЧ.**
TUT.BY.



Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Пакольні ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. 220013, Мінск, пр-т Незалежнасці, 79/1. Падпісана ў друк 11.05.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 21 611 экз. Заказ № 1522.